

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА Ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 11(94) Лістапад 2001 November Год выд. 9.


## 27-га Лістапада – Дзень Герояў, гадавіна Слуцкага Паўстаньня!..

## Яны ішлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына

Паміж шматлікімі антыбальшавіцкімі паўстаньнямі ў Беларусі Слуцкі збройны чын пакінуў найбольшы след у гісторыі беларускага вызвольнага руху. Ён – сымбаль нашага нацыянальнага супраціву расейскай акупацыі.

Акт 25-га Сакавіка 1918 г. аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі быў сустрэты жыха-рамі Случчыны з вялікім патрыятычным уздымам, за ягонае ажыцьцяўленьне беларускія патрыёты былі гатовыя змагацца са зброяй у руках.

14 лістапада 1920 г. у Слуцку адбыўся першы Беларускі зьезд Слуцкага павету, на які сабраліся 107 дэлегатаў. Зьезд выбраў Часовую Раду Случчыны з 17 чалавек на чале з Уладзімерам Пракулевічам і прыняў рэзалюцыю «супраць захопу нашй Радзімы замежнай і самазвана савецкай уладай», а Рада Случчыны вылучыла патрабаваньне незалежнасьці Беларусі ў яе этнаграфічных межах ды пастанавіла бараніць інтарэсы беларусаў «нават сілай зброі», выказваючы ўпэўненасьць, што «наша справа – праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе».

Адразу пачалася падрыхтоўка ўзброенага паўстаньня ў навакольных мястэчках і вёсках. Тут былі зарганізаваны збройныя адзьдзелы. Жанчыны, выпраўляючы ў бой патрыётаў, вышылі на нацыянальных бел-чырвона-белых сьцягах словы: «Тыя, што першыя паўсталі й пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына».

24 лістапада вайсковыя адзьдзелы Рады Случчыны адышлі ў м. Семежава і цягам трох дзён тут сканцэнтравалася 10000 узброеных паўстанцаў. Зь іх былі сфармаваныя першы Беларускі Слуцкі полк пад камандай палкоўніка Гаўрыловіча, Другі Беларускі Грозаўскі полк, укамплектаваны пераважна моладзьдзю з мястэчка Грозаў на чале з капітанам Семянюком. Гэтыя два палкі ўвайшлі ў склад Першай Беларускай Слуцкай дывізіі БНР, камандзірам якой стаў Антон Сокал-Кутылоўскі. Палкі дзяліліся на батальёны, роты, узводы, адзьдзелы.

27 лістапада распачаліся першыя баі з бальшавіцкімі захопнікамі ля вёсак Быстрыца, Верабейшчына, Васільчыцы, Чарнагубава, Васілішкі і інш. У сьнежні баі вяліся каля мястэчак Капыль, Цімкавічы, Вызна. Беларуска-расейскі фронт расьцягнуўся на 100 км. Сьпехам сфармаваная беларуская дывізія каля месяца стрымлівала націск цэлай арміі, і ня толькі стрымлівала, але й пераходзіла ў контрнаступы, вызваляючы вёскі і мястэчкі. Так, было адбіта ў чырвоных мястэчка Цімкавічы. Акрамя таго, пасьля адозваў Рады Случчыны, зьвернутых да мабілізаваных чырвона-армейцаў, некаторыя зь іх пачалі здавацца ў палон і пераходзіць на бок паўстаньня. Асобныя часткі Грозаўскага палка ў баях каля м. Вызна загінулі цалкам – да аднаго чалавека. Менавіта тут атрымаў баявы хрост





вайсковы гімн паўстанцаў на словы Макара Краўцова «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Каб адолець беларускіх змагароў, бальшавікі кінулі на фронт Омскую дывізію, што цалкам складалася з не-беларусаў. Слуцкая дывізія, каб пазьбегнуць акружэньня, адыйшла на другі бераг ракі Лань. Помсьцячы за паўстаньне, бальшавікі пачалі паліць беларускія вёскі. 28 сьнежня 1920 г. Слуцкая дывізія вымушана была перайсьці польскую мяжу, і была абяззброеная ля в. Сіняўка. Але змаганьне ня скончылася: частка паўстанцаў вярнулася ў акупаваную Беларусь і пачала партызанскую барацьбу.

Слуцкі збройны чын стаў ўзорам для наступных пакаленьняў змагароў за волю Беларускага Народу.

*******************************************

## Што такое Слуцкі збройны чын?

Увосень 1920 года, калі Расея і Польшча падпісалі замірэнне, вызначаная дэмаркацыйная лінія Кіевічы-Лань і нейтральная зона паўз яе прайшлі праз Случчыну. Варта адзначыць, што Случчына была адной з найбагацейшых і найбольш нацыянальна сведамай беларускай правінцыяй. Тут традыцыйна існаваў моцны асяродак нацыянальна-вызвольнага руху.

Гэты час міжуладдзя, калі палякі адступілі, а расейцы яшчэ не прыйшлі, беларускія дзеячы ў Слуцку выкарысталі для арганізацыі змагання за самастойную Беларусь, за ўсталяванне ўлады Беларускае Народнае Рэспублікі, абвешчанай у сакавіку 1918 года.

14-га лістапада 1920 года быў скліканы зьезд Случчыны, які праходзіў у доме Э.Вайніловіча. Зьезд выбраў часовы ўрад - Раду Случчыны на чале з Уладзімірам Пракулевічам і пастанавіў распачаць збройнае змаганне супраць чужынцаў. Рада пачала стварэнне вайсковых фармаванняў, была аб'яўленая мабілізацыя, якая прайшла вельмі актыўна сярод насельніцтва Слуцкага павета - Цімкавічаў, Капыля, Семежава, Грозава і іх ваколіцаў. У кароткім часе сабралася блізу 10 000 чалавек. Беларускія жанчыны з Гарадні прыслалі для случакоў сцяг з прыгожа вышытаю «Пагоняю» і надпісам: «Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына».

Былі сфармаваныя два палкі: 1-шы Слуцкі полк на чале з падпалкоўнікам Ахрэмам Гаўрыловічам і 2-гі Грозаўскі полк пад камандаю капітана Семянюка, аб'яднаныя ў Слуцкую брыгаду, якую ўзначальваў Антон Сокал-Кутылоўскі. У сувязі з наступам Чырвонай арміі штаб паўстання быў перанесены са Слуцка ў Семежава.

27 лістапада пачаліся баі. Асабліва адчувальныя для бальшавікоў былі ўдары па лініі Капыль-Цімкавічы-Вызна (цяпер Красная Слабада). Супраць случакоў была кінутая Омская дывізія. Яны мужна змагаліся, іх шырока падтрымлівала мясцовае насельніцтва, але сілы былі няроўныя. Пасля больш як месяца ўпартых баёў нашы ваяры змушаныя былі адысці за раку Лань, дзе былі раззброеныя палякамі і змешчаныя ў спецыяльны лагер для інтэрнаваных асобаў.

Сярод найбольш актыўных удзельнікаў змагання былі Павел Жаўрыд, Юрка Лістапад, Макар Краўцоў (аўтар ваяцкага марша «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», які стаў гімнам БНР) Васіль Русак, Аляксей Кабычкін, Юльян Сасноўскі, Янка Біруковіч. Многія са змагароў вярнуліся пазней на радзіму, паверыўшы ў магчымасць адбудовы Беларускага гаспадарства пад бальшавікамі, але былі знішчаныя ў часе рэпрэсій.

Падзеі 1920 года ўвайшлі ў гісторыю пад назовам Слуцкі збройны чын, або Слуцкі збройны ўздым (часам гэта называюць паўстаннем, але такі назоў не зусім адпавядае сутнасці падзеяў). Яны зьяўляюцца яскравым сведчаннем нязгаснага імкнення беларускага народу да незалежнасці, яго рашучасці ў змаганьні за волю.

^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^^



## Жыве Беларусь!!!







**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Пруські

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і дапісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# Курапаты – наш агульны Востраў слёз Курапаты...

З трывогай сачу за падзеямі, якія разгарнуліся вакол гэтага месца, дзе ў агульных магілах пахаваны пакутнікі. Нельга дапусціць, каб на чалавечых касцях раз'язджалі бульдозеры і асфальтаўкладчыкі, каб гусеніцы трактароў трушчылі чалавечыя астанкі. Усё ў гэтым свеце вяртаецца бумерангам. За нашы грахі заплацяць нашчадкі. Няўжо так цяжка зразумець, што калі мы дапусцім знішчэнне Курапат, у будучым па нашых магілах праедуцца бульдозерамі нашы дзеці і ўнукі. Тады не здзіўляйцеся, калі пачуеце пра чарговае варварства, вандалізм на могілках. У такім выпадку не трэба абурацца, што дзеці разбурылі помнік, апаганілі могілкі. Аддаючы на згубу Курапаты, мы самі даём прыклад цынічнай непавагі да магіл продкаў.




Я прашу адазвацца ўсіх, хто носіць у сваім сэрцы памяць аб пакутніках тых часоў. Бо загінулі сотні тысяч. Лічы з кожнай вёскі, хутара, пасёлка, горада забіралі "чорныя крумкачы" сваіх ахвяр – ворагаў народа, кулакоў. Магілы большасці з іх невядомыя. Але жывыя яшчэ сведкі тых часоў, у сем'ях зберагаюцца імёны закатаваных родзічаў. Назавіце іх услых. Спіс атрымаецца вельмі вялікі. Мой малодшы стрыечны брат Грыгор'еў Мікалай Кірылавіч, мой Коленька, з якім мы некалькі гадоў гадаваліся ў бабулі, загінуў у Афганістане ў няпоўныя 20 гадоў. Ён пахаваны далёка на Урале, на радзіме сваёй маці. Але ёсць Востраў слёз, куды я магу прыехаць, каб пакласці кветкі, у думках пагаварыць з ім.

У 1939 годзе ў вёску Новыя Чамаданы Магілёўскай вобласці Шклоўскага раёна прыехаў "чорны крумкач". Паводле сведчання майго таты Сякацкага Міхаіла Венедыктавіча, схапілі тады з вёскі 17 чалавек, у тым ліку майго дзядулю і яго сыноў Антона і Івана. Ніхто з іх не вярнуўся. Дзядуля загінуў у лагеры пад Уфой, дзядзька Іван у штрафным батальёне крывёй выкупіў сваю "віну" перад народам пад Масквой у 1941 г.; дзе загінуў дзядзька Антон, я не ведаю. Ведаю толькі, што атрымаў ён па прысуду "10 гадоў без права допісу". Магчыма, і яго завезлі на допыты ў Мінск як шпіёна няведама якой разведкі. (Дзядзька быў афіцэрам і праходзіў па справе Тухачэўскага.) Ён адмовіўся падпісваць паклёп на свайго камандзіра. Магчыма, яго прытулкам і сталі Курапаты. Адразу пасля вайны арыштавалі і тавату сястру Браніславу, медыка, якая ўсю вайну прайшла медсанбатам і згінула без вестак у засценках НКВД.

Таму і павінны стаць Курапаты яшчэ адным Востравам слёз для тых, хто ніколі не даведаецца, дзе магілы родных, якіх згубіў сталінска-бальшавіцкі рэжым. Адгукніцеся, людзі! Прыйдзем разам у Курапаты на Дзяды, абаронім гэтае святое пакутніцкае месца, прымусім улады спыніць будоўлю дарогі. Не будзем губіць свае душы, не будзем бяспамятнымі. Мы ўжо і так на многае забыліся, мо таму і жывём так зараз? Я хачу звярнуцца і да сьвятароў усіх канфесій: праваслаўнай, каталіцкай, мусульманскай, іудзейскай. Ні адна рэлігія не дазваляе руйнаваць магілы, я перакананa, што ў Курапатах пахаваны пакутнікі ўсіх канфесій. Чаму ж не чуваць вашых галасоў, чаму не настаўляеце сваю паству на Богаспатрэбную справу?

А рабочыя, што працуюць на будоўлі дарогі? І ўсе, хто мае дачыненне да гэтай справы? Пабойцеся Бога! Успомніце нарэшце пра сумленне, калі вы атэісты. Адмоўцеся працаваць па варварскаму праекту. Як жа вы будзеце жыць потым?

Якое геніяльнае апавяданне "Труп" напісаў Васіль Быкаў, прачытайце, хто прапусціў, яно было надрукавана ў "Народнай волі". Я вельмі спадзяюся, што вы пачуеце мяне, людзі! Не бурыце магілы маіх родных! Курапаты – наш агульны Востраў Слёз.

Сафія Табола (Рабочы)

=======================================

# Сьвятыя Дзяды, хадзіце сюды!

Трынаццаць год таму ў Беларусі ўпершыню адбыўся мітынг, не дазволены ўладамі. 30 кастрычніка 1988 года тысячы людзей сабраліся, каб памянуць бязвінных ахвяр сталінскіх рэпрэсій, расстраляных пад Мінскам ва ўрочышчы Курапаты. Тады іх разагнала міліцыя. Сотні людзей былі збіты і затрыманы. Шмат для каго менавіта з гэтага пачалося ўсведамленне сябе беларусам. Было ўсё гэта на Дзяды.

Дзяды – дзень памінання продкаў – у беларусаў прынята адзначаць некалькі разоў на год: вясной, летам і восенню. Найбольш значнымі лічацца восеньскія Дзяды. Звычайна яны адзначаюцца ў суботу перад Змітрам ці ў першую альбо другую суботу пасля Пакроваў. У гэты дзень прынята раніцай хадзіць на могілкі і прыбіраць магілы сваякоў. Потым, па традыцыі, уся сям'я павінна сабрацца вечарам за святочным сталом. Сеўшы вячэраць, трэба паклікаць: "Сьвятыя Дзяды, хадзіце сюды!" Для Дзядоў на асобную талерку неабходна пакласці па адной лыжцы кожнай стравы і паставіць гарэлку альбо віно. У народзе раней верылі, што на Дзяды душы памерлых прыходзяць у свой дом, да дзяцей і ўнукаў, каб паглядзець, як тыя жывуць. Таму, каб не пакрыўдзіць Дзядоў, трэба, каб у доме быў парадак, а стол быў застаўлены ежай. "На Дзяды да абеду плачуць, пасля – скачуць," – вось галоўнае правіла святкавання гэтага дня. Дзяды, такім чынам, хоць і невясёлае, але ўсё ж такі сьвята. Таму можна запрасіць да сябе ў госці сваякоў і суседзяў — пасядзець за сталом, паўспамінаць памерлых.

Яшчэ некалькі год таму дзень памінання продкаў Дзяды меў статус афіцыйнага свята. 2 лістапада было выхадным днём. Але ў 1998 годзе гэты ўказ быў скасаваны...

У Мінску на Дзяды штогод арганізоўваецца шэсце ў Курапаты. У гэтым годзе яно адбылося 28 кастрычніка, у нядзелю.

Калі ж жадання прытрымліваца народных традыцый альбо прымаць удзел у арганізаваных шэсцях на Дзяды не ўзнікне, можна проста ўспомніць памерлых сваякоў, зьездзіць на радзіму бацькоў, паразмаўляць з бабуляй пра свой род альбо распавесці пра гэта сваім дзецям...

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Моцна просім не забывацца пераслаць гадавую АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты...

# НАШ ПРЭЗІДЭНТ ЯШЧЭ ВУЧЫЦЦА Ў ШКОЛЕ...

## СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАТАТКІ

Дык хто ж галасаваў за Лукашэнку? Прынамсі, не я, ніводзін з маіх сяброў, сваякоў, калегаў, суседзяў, знаёмых... Тады хто ж? Пытаньне гэтае задаю сабе не адзін я. Хто тыя 75 адсоткаў беларусаў, што нібыта аддалі свае галасы за таталітарызм, дыктатуру і пахаваньне надзеі на лепшую будучыню? Калі так ставіць пытаньне, дык адразу ўзьнікае пратэст: ну не маглі так галасаваць людзі. Але ж галасавалі. І справа ня толькі ў тым, што выбары былі недэмакратычнымі, што дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі працавалі на аднаго чалавека – на Лукашэнку, што былі падтасоўкі і фальсіфікацыі на выбарчых участках... Бо калі б не было людзей, якія сьвядома ішлі галасаваць за Лукашэнку, дык ці мажлівыя б былі тыя самыя масавыя фальсіфікацыі на выбарчых участках? Адразу скажу, што не прэтэндую на глыбокае сацыялагічнае дасьледаваньне. Проста выкажу свае думкі на гэты конт: хто ж падтрымаў Лукашэнку?

Найперш, вядома, пенсіянеры. Менавіта састарэлыя бабулькі і дзядкі – самая надзейная і маналітная апора "дзеючага прэзідэнта". На іх рабілася стаўка ў "штабе" Лукашэнкі.

– Дзякаваць Богу, наш Аляксандр Рыгоравіч застаўся прэзідэнтам, – чую я ранкам каля пад'езду радасьць пажылой суседкі.

Я яе ведаю. Сын гэтай жанчыны ўжо колькі гадоў працуе ў прэзідэнцкай ахове. Ад ягонай постаці – простага ў мінулым мянта – так і патыхае салíднасьцю і дабрабытам. Шыкоўнае адзеньне, прыстойная іншамарка... Бо адпаведны ў яго і заробак – гарантаваны на час лукашэнкаўскага кіраваньня. Таму і маці галасавала ня столькі за Лукашэнку, колькі за спакой свайго сына. Адзінкавы выпадак, скажаце? Добра. Але свой голас за "Сашку" аддала і вясковая бабулька, сын якой звычайны калгасны трактарыст. І зрабіла гэта ня толькі таму, што анічогенька ня ведала пра альтэрнатыву Лукашэнку – Ганчарыка. Як ні дзіўна, але менавіта пры Лукашэнку яна адчула асабістую важнасьць, значнасьць і патрэбнасьць. Бо дзяўчынкай пачала працаваць у калгасе яшчэ пры Сталіне, гнула сьпіну пры Хрушчове з Брэжневым. Не за грошы, а за міфічныя працадні, за натурплату ў канцы году: бульбу ды зерне. А пры Лукашэнку на пенсію пайшла. І цяпер штомесяц, рэгулярна(!) па 50-60 тысячаў рублёў атрымлівае. Сума ў 40-50 даляраў ЗША па вясковых маштабах – велізарная. Бо гэта – удвая, утрая больш, чым сын-трактарыст у калгасе атрымлівае за месяц. І сама яна цяпер жыве пры капейцы, і сыну дапамагае. Ну як тут за Лукашэнку не прагаласаваць? Як на яго не маліцца? Што там апазіцыя кажа пра жыцьцё ў Польшчы ды Германіі? Ня ведае яна таго жыцьця і ведаць ня хоча. Затое добра памятае часы Сталіна з Хрушчовым і з тымі часамі (а не з сёньняшняй Чэхіяй ды Швецыяй) параўноўвае сваё цяперашняе жыцьцё. І паспрабуй пераканай яе, што калі на Сталіна нам раўняцца, дык ніколі з багны ня выбрацца...

А запытайцеся ў вяскоўцаў, як яны ставяцца да зьніклых палітыкаў Захаранкі ды Ганчара. Пытаў, і большасьць, як ні сумна гэта гучыць, адказвала: "А ніяк..." І толькі адзінкі перапытвалі: "А хто гэта такія?" Не даходзяць да вёсак апазіцыйныя газеты. І тэлевізары там, апроч дзяржаўнага тэлеканалу ды яшчэ ОРТ, іншых праграмаў не прымаюць. Аксіёма: той, хто валодае сёньня сродкамі масавай інфарцыі – валодае і розумамі масаў. Тым больш, што і высілкаў асаблівых ня трэба: як пісаў расейскі класік – ах, падмануць мяне ня цяжка, я сам падманвацца гатоў...

Так, супраць Лукашэнкі галасавала вясковая інтэлігенцыя – настаўнікі, урачы, якім абрыдла назіраць, як вёска патанае ў п'янстве, якой абрыдла пачувацца быдлам. Але што іх галасы – кропля ў моры. Тым болей, што Беларусь – гэткі СССР у мініяцюры, дзе ў аснове ідэалогіі і палітыкі засталіся страх і падман. Маўляў, галасуйце як хочаце, але мы прасочым, як вы прагаласавалі і калі ня так "як трэба", дык дабра не чакайце... І што – дзейнічае эфектыўна.

Гэта вёска. Але знайшлося каму падтрымаць Лукашэнку і ў беларускіх мястэчках, райцэнтрах ды буйных гарадах. Так, "вертыкальшчыкі" ад раённага да абласнога маштабу ня дужа любяць "бацьку", але ніхто з іх ня выступіў супраць яго, больш за тое, яны зрабілі ўсё, каб арганізаваць "патрэбныя" вынікі выбараў. Па той простай прычыне, што сёньняшняму чынавенству няма ніякай ахвоты працаваць на карысьць дзяржавы, народу. Іншая справа – уласная кішэня. Пры цяперашнім палітычным раскладзе яна ніколі не бывае пустой. Адзіная ўмова – падтрымка курсу "дзеючага прэзідэнта". І няхай чыноўніка абражаюць на селектарных нарадах, няхай паўсюль пануе дыктат і безгаспадарчасьць, аднак кожны "вертыкальшчык" ведае цьвёрда: сёньняшняя ўлада гарантуе яму стан гэткага ўдзельнага князька. Паглядзіце: лепшы дом у любым райцэнтры – дом "вертыкальшчыка", лепшая іншамарка – яго. І гэта навідавоку, не хаваючыся. А ці ж забясьпечыць яму такую ўежную вольніцу новы прэзідэнт?

А ў Мінску, таго ж 9 верасьня, чую ад трыццацігадовай рабочай аднаго заводу:

– Ня буду галасаваць за Ганчарыка. Ён такі ж самы чыноўнік, як і іншыя, як і Лукашэнка. Дык гэты хоць накраўся ўжо і красьці больш ня будзе... Не, хай лепш "бацька" застаецца…

Ну што на гэта скажаш? Што грошай ніколі не бывае шмат, працытуеш публікацыі апазіцыйнай прэсы пра мільярды даляраў Лукашэнкі ў замежных банках... Ды чхала яна на мае словы і доказы, бо яе логіка – жалезная. І перакоўцы не падлягае...

Дык ці вінаватая апазіцыя ў тым, што яна прайграла 9 верасьня? І ці магла яна ўвогуле выйграць у нашых постсавецкіх умовах? Няхай "памылкі" апазіцыі аналізуюць іншыя. Шкада, праўда, што нам, беларусам, проста наканавана працягваць вучыцца на сваіх памылках... І няўжо, няўжо наш сапраўдны прэзідэнт яшчэ толькі вучыцца ў школе?

**Алесь ГАРКУН.**

# ПАСЛЯ ЛУКАШЭНКІ І ЯШЧЭ РАЗ З ІМ

Мала хто ў Беларусі сёння верыць лічбе (амаль 76% галасоў), з якой Лукашэнка перамог на прэзідэнцкіх выбарах. Прычым тычыцца гэта як тых, хто галасаваў «за» сённяшнюю ўладу, так і тых, хто галасаваў «супраць». Нечаканыя нават шмат для каго з прыхільнікаў Лукашэнкі афіцыйныя вынікі «падтрымкі» змазалі «эфект перамогі».

Насамрэч прыхільнікі беларускага "правадыра" не адчулі, па вялікаму рахунку, ні радасці, ні задавальнення – бо невядома, ці быў поспех на самай справе, ці яго проста намалявалі ў выбаркамаўскіх паперах. Нават сам Лукашэнка падчас інаўгурацыі зазначыў, што не мае асаблівай радасці з нагоды свайго пераабрання. Што да беларускай апазіцыі, дык яна, хоць і мала спадзявалася на перамогу, але ўсё ж разлічвала на другі тур выбараў, а таму так і не паспела перажыць ні горачы паражэння, ні балючага пачуцця скрадзенай перамогі. У той жа час сцэнарый выбараў, здзейснены ўладамі, істотна нічым не пашкодзіў апанентам рэжыму — як, дарэчы, і самой уладзе ён якіх-небудзь псыхалагічных дывідэндаў не прынёс. Дыскрэдытацыі беларускай палітычнай апазіцыі не адбылося. Ніякі "Рэзананс" на грамадскую думку не паўплываў. Шчыра за Лукашэнку галасавалі тыя, каму ён падабаецца. Тыя, каму не падабаецца, галасавалі супраць.

Усё гэта азначае, што рэжым Лукашэнкі ўжо не валодае ранейшымі рэсурсамі псыхалагічна-прапагандысцкага ўплыву на палітычную сытуацыю ў краіне. Разам з апошнімі прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі скончыўся сямігадовы перыяд эмацыянальнай палітыкі.

Што наперадзе?

Выглядае так, што ў бліжэйшыя пяць гадоў у беларускім грамадстве будуць і надалей адбывацца працэсы распаду савецкай і пост-савецкай псіхалогіі – успаміны накшталт "Ах, як мы добра жылі!" кранаюць усё менш. Моладзь, якая да сённяшняй беларускай улады ставіцца без павагі, а магчымасці жыццёвай рэалізацыі не мае, працягне палітызавацца. Паколькі супрацьстаяць у нас рэжыму перш за ўсё нацыянальныя сілы, маральная апора для барацьбы будзе шукацца менавіта тут. У выніку пачнуць фармiравацца новыя суадносіны палітычных сіл у краіне. Сваю ролю каталізатара ў гэтых працэсах будзе адыгрываць эканамічны стан у краіне, які хоць і павольна, але ўстойліва пагаршаецца. Апошнія выбары, акрамя ўсяго іншага, выявілі і змены ва ўспрыняцці Лукашэнкі з боку ягоных прыхільнікаў, а таксама пэўныя змены ў яго іміджы. Гэта ўжо не той "бедный, но чэстный" дырэктар саўгаса, які калісьці так падабаўся "простаму чалавеку". І характэрна, што ўпершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі прадстаўнікі ўсіх родаў войскаў і сілавых структур падчас інаўгурацыі былі прыведзены да прысягі ў вернасці асабіста прэзідэнту Рэспублікі Беларусь. Але і прапанаваная ў свой час "барацьбітом з карупцыяй" папулісцкая эканамічная палітыка эфекту не дае. «Новы» беларускі рэжым будзе вымушаны пайсці на нейкую лібералізацыю эканомікі.

Небяспечная лібералізацыя.

Не варта разлічваць, што ў краіне будуць праведзены сапраўдныя рынкавыя рэформы. Проста наперадзе — перыяд пранікнення ў Беларусь расійскага капіталу пад кантролем (хаця б напачатку) афіцыйнага Мінску. Найверагодней, што гэты працэс будзе сінхранізаваны з інтэграцыйна-палітычным уціскам на лукашэнкаўскі рэжым з боку Крамля.

Што далей?

Адчуваючы пагрозу сваім уласным эканамічным інтарэсам, мясцовая наменклатура разам з зацікаўленымі групоўкамі расійскага капіталу будзе актыўна шукаць шляхі прыватызацыі нашай дзяржаўнай маёмасці. У выніку ўзнікне эфект частковай некіруемасці беларускай эканомікі. Паколькі эканамічнае становішча працягне пагаршацца, узнікне сацыяльная і палітычная напружанасць. Палкія прыхільнікі Лукашэнкі могуць лёгка ператварыцца ў ягоных зацятых апанентаў. У падобнай сітуацыі Лукашэнка наўрад ці вырашыцца на вайну з уласнай наменклатурай. Не выключана, што напрыканцы тэрміну свайго прэзідэнцтва ён будзе больш заклапочаны пошукам гарантый уласнай бяспекі ў Расіі і сярод тых прадстаўнікоў наменклатуры, якія паспеюць прыватызаваць частку беларускай маёмасці.

«Народ» і апазіцыя.

Я не збіраюся абвяргаць сцвярджэнні накшталт "Лукашэнка – мара беларускага народа". Калі пад словам "народ" разумець пэўную частку нашага насельніцтва — перш за ўсё людзей старэйшага ўзросту, малаадукаваных, з нізкім сацыяльным статусам, людзей, якія прызвычаіліся да ўласнай беднасці і не ўяўляюць, што ў трэцім тысячагоддзі можна жыць інакш – дык сапраўды так. І за прайшоўшыя сем гадоў менавіта такі «народ» атрымаў практычна ўсё, што гвалтоўна згубіў разам з зусім нечаканым для сябе распадам Савецкага Саюза. Сямігадовая палітыка Лукашэнкі ўвогуле прыйшлася па сэрцу тым "савецкім беларусам", што перажылі крах СССР як асабістую драму.

Аднак ужо сёння можна канстатаваць, што «савецкі настальгічны перыяд» у Беларусі падыходзіць да свайго завяршэння. Бліжэйшыя пяць гадоў будуць характарызавацца інтэнсіўнымі зменамі ў сацыяльна-дэмаграфічнай сытуацыі — інакш кажучы, зменай пакаленняў. Як следства, пачнецца і перамена настрояў у грамадстве – узрасце "ўдзельная вага" тых, у каго ні беларускі лідэр асабіста, ні ягоны рэжым не выклікаюць ніякіх сімпатый. У гэтых умовах беларуская апазіцыя атрымлівае шанц стаць моцнай і ўплывовай палітычнай сілай у краіне. І тут – яшчэ адзін станоўчы вынік прайшоўшай прэзідэнцкай кампаніі: як бы там ні было, але апазіцыя даказала, што можа аб'яднацца. Зразумела, што пакуль гэта дасягненне больш для самой беларускай апазіцыі і зусім не факт шырокага палітычнага ўсведамлення ў краіне. Аднак крок зроблены – хаця і толькі першы крок. Таму перад беларускай апазіцыяй папранейшаму застанецца задача пашырэння сваёй сацыяльна-палітычнай базы, павелічэння свайго ўплыву і наладжвання дыялогу з беларускім грамадствам, дыялогу, зразумелага самым розным сацыяльным і палітычным групам. Вельмі верагодна, што беларускай апазіцыі прыйдзецца яшчэ перажыць некалькі хваляў сур'ёзнага ціску і рэпрэсій з боку ўладаў.

Але да чаго-чаго, а да гэтага наша апазіцыя маральна гатовая. Сем гадоў лукашэнкаўскага рэжыму навучылі…

Алесь АНЦІПЕНКА (Рабочы)

**************************************************

# Хто будзе лідэрам у БНФ?

Віктар СЕВЕРЦАЎ (Н.Сваб.)

Пазачарговы Сойм БНФ «Адраджэньне», які адбыўся 22 кастрычніка, зацвердзіў палажэньне аб тым, што чарговы зьезд партыі пройдзе 15 і 16 сьнежня.

Пазачарговасць склікання Сойма ўсяго праз тыдзень пасля папярэдняга была выкліканая тым, што ў мінулы раз не быў сабраны кворум, неабходны для прыняцця рашэнняў. Большасць сябраў Сойму яго праігнаравала. На гэты раз кворум быў сабраны. Вельмі істотным было пытанне аб дэлегаванні адпаведных квотаў на зьезд.

Так, у сярэдзіне снежня ў Мінск прыедзе, каб абмеркаваць стан партыі і выбраць новае кіраўніцтва, кожны пяты сябра БНФ «Адраджэньне». Але большую ўвагу ўсе звярнулі на іншы факт палажэння – рэкамендацыю аб тым, што кожны трэці дэлегат з'езда мусіць быць маладзейшым за 30 гадоў. І гэта вельмі празрысты намёк на 30-адсоткавую квоту на з'езд незарэгістраванага маладзёжнага крыла БНФ Маладога Фронту.

Што гэта можа азначаць менш чым за два месяцы да зьезда? Па-першае, у кулуарах партыі, якая перажывае відавочны крызіс, ходзяць чуткі, што значная частка рэгіяналаў і маладафронтаўцы выступяць на зьездзе з рэзкай крытыкай цяперашняй сітуацыі ў БНФ і прапануюць свае магчымыя змяненні ў стратэгіі і тактыцы. Ужо заявіў аб гэтым і адзін з мінскіх намеснікаў старшыні БНФ Вячаслаў Сіўчык, які, па чутках, і плануецца на змену цяперашняму старшыні Вінцуку Вячорку. Апірышчам Сіўчыка, па звестках з той жа крыніцы, можа стаць якраз Малады Фронт са сваімі 30-цю адсоткамі.

У каментары, які Вячаслаў Сіўчык даў НАШАЙ СВАБОДЗЕ, ён, у прыватнасці, сказаў: «Мяне не задавальняе дзейнасць арганізацыі за апошні год. БНФ зараз вельмі патрэбныя нейкія змены, каб спыніць дэвальвацыю самога паняцця "лідзіруючай партыі БНФ". Патрэбна новая тактыка дзеянняў, тактыка зносінаў з саюзнікамі. Што ж датычыцца таго, што квота маладых людзей на зьезд роўная 30 адсоткам – то я заўсёды толькі вітаў актыўны ўдзел моладзі ў жыцці партыі. Засцярогу выклікае толькі той факт, што ўпершыню за ўвесь час існавання Маладога Фронту пры БНФ дэлегатаў на зьезд будуць вылучаць не кіраўнікі маладзёжнай структуры, а рэгіянальныя, мясцовыя кіраўнікі. Да таго ж наконт 30 адсоткаў – гэта толькі рэкамендацыя не абавязковая для выканання».

На пытанне наконт вылучэння сваёй кандыдатуры на пасаду старшыні БНФ «Адраджэнне» Вячаслаў Сіўчык адказаў: «Пакуль што казаць аб гэтым зарана. Але сваю праграму развіцця партыі на зьезд я прынясу. І праграма будзе ўтрымліваць палажэнні аб неабходных зменах».

---

* * *

*Збор "Гарады і пасёлкі Беларусі" ў сямі тамах* пляную выпусьціць выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі. Пра гэта паведаміў намеснік галоўнага рэдактара кандыдат гісторыі Іосіф Хаўратовіч на прэс-канфэрэнцыі, прысьвечанай прэзэнтацыі кніг выдавецтва па гістарычнай тэматыцы. У бліжэйшыя пяць гадоў будзе завершаны выпуск кніг гістарычна-дакумэнтальнай серыі "Памяць". За 20 гадоў выдадзена каля 90 тамоў. Прычым замест 126 кніг, першапачаткова заплянаваных да выпуску, трэба будзе выдаць 145 тамоў. Гэтая ўнікальная сэрыя ня мае аналагаў у сьвеце. У плянах "Беларускай энцыклапедыі" - падрыхтоўка факсымільных выданьняў беларускіх гісторыкаў і этнографаў Яўхіма Карскага, Мітрафана Доўнар-Запольскага й Паўла Шпілеўскага. Завершаная праца над энцыклапэдычным выданьнем "Рэлігія і царква на Беларусі", якое неўзабаве выйдзе з друку.



**Генадзь Сагановіч** (Arche, № 3-01)

# Вайна з беларускай гісторыяй

За савецкім часам гісторыі Беларусі як асобнага прадмету ў навучальных праграмах сярэдняй і вышэйшай адукацыі ў БССР проста не існавала. Яна была неабавязковым дадаткам да гісторыі СССР (фактычна — Расіі). Толькі пасля распаду Савецкага Саюзу, калі гістарычная навука вызвалілася ад партыйнага кантролю, і паўстала патрэба абнаўлення гістарычнай адукацыі ў адпаведнасці з новымі палітычнымі рэаліямі, становішча з выкладаннем гісторыі Беларусі змянілася. Ужо ў 1991 г. быў апублікаваны праект новай канцэпцыі гістарычнай адукацыі ў Беларусі, з якога і пачаліся рэальныя перамены. У адпаведнасці з ім з 1992 г. прадмет "гісторыя СССР" касаваўся і далучаўся да курсу гісторыі сусветнай, а гісторыі Беларусі ўпершыню надаваўся статус самастойнай дысцыпліны. Асноўныя прынцыпы прынятай канцэпцыі арыентавалі выкладанне гісторыі на ўсведамленне нацыянальнай адметнасці Беларусі, адраджэнне гістарычнай памяці і нацыянальнай свядомасці, на выхаванне патрыётаў Беларусі незалежна ад нацыянальнасці. Вызначаным у канцэпцыі прыярытэтам адпавядала і новая праграма гістарычнай адукацыі, якая была распрацавана аўтарытэтным калектывам вучоных і педагогаў пад кіраўніцтвам Міхася Біча і пасля апрабацыі ў газетах выйшла ў свет асобным выданнем. Паводле гэтай праграмы да пачатку 1993/94 навучальнага году спецыялісты падрыхтавалі 20 новых дапаможнікаў па гісторыі, выдадзеных на беларускай мове. У іх упершыню ў Беларусі гісторыя разглядалася не з класавых, а з агульнанацыянальных пазіцый, вытокі беларускай дзяржаўнасці звязваліся з Полацкім княствам і Вялікім Княствам Літоўскім, адкрыта гаварылася пра спусташальныя войны, якія вялі на беларускай зямлі маскоўскія цары, а пры асвятленні найноўшай гісторыі аўтары выразна адмоўна ацэньвалі таталітарную савецкую сістэму.

Прапанаваная новымі падручнікамі трактоўка мінулага Беларусі радыкальна адрознівалася ад традыцыйнай савецкай і выклікала раздражненне актыўных прыхільнікаў старога рэжыму. Рэальныя ўмовы для іх наступу на гісторыкаў дэмакратычнай арыентацыі і для вяртання савецкае візіі мінулага стварыў прыход да ўлады Аляксандра Лукашэнкі ў 1994 годзе. Невыпадкова адразу пасля змены дзяржаўнай сімволікі новае кіраўніцтва Беларусі жыва зацікавілася беларускай гістарычнай навукай і ўзялося прыводзіць яе інтэрпрэтацыйныя мадэлі ў адпаведнасць з савецкім бачаннем мінулага. З гэтага моманту гістарычная адукацыя ў краіне стала полем найвастрэйшых спрэчак і трапіла ў поле асаблівай увагі дзяржаўных ідэолагаў.

У жніўні 1995 году Галоўнае ўпраўленне грамадска-палітычнай інфармацыі на чале з Уладзімірам Замяталіным праз дзяржаўныя масмедыі паведаміла пра рашэнне прэзідэнта забараніць выкарыстанне новых падручнікаў па гісторыі і вярнуць у школы старыя, савецкага ўзору. Міністэрства адукацыі ахапіла сапраўдная паніка, бо такое рашэнне было немагчыма выканаць нават з чыста тэхнічных прычынаў. Усвядоміўшы гэта, А. Лукашэнка публічна заявіў, што на самай справе распараджэння пра забарону новых падручнікаў не існуе. Спецыяльная нарада прэзідэнта з прадстаўнікамі Міністэрства адукацыі 23 жніўня 1995 г. вырашыла часова дазволіць карыстацца "нацдэмаўскімі" падручнікамі, а новыя, альтэрнатыўныя, падрыхтаваць на наступны год. Для праверкі і выпраўлення навучальнай літаратуры па гісторыі стварылі спецыяльную Дзяржаўную камісію пры Кабінеце Міністраў, якую ўзначаліў сам У. Замяталін. У склад камісіі ўвайшла пераважна старая прафесура сталінска-савецкай школы, у прыватнасці гісторыкі Пётр Петрыкаў, Аляксандр Філімонаў, Валеры Чарапіца, філосаф Вячаслаў Дашкевіч і інш. Так у Беларусі быў адкрыта ўзяты курс на пераход гістарычнай адукацыі на новыя (старыя!) ідэалагічныя рэйкі, а фактычна — на яе рэсаветызацыю, на вайну з беларускай гісторыяй. Праз тры гады на афіцыйнай нарадзе ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прэзідэнт А. Лукашэнка ўрэшце публічна сказаў пра сутнасць дзяржаўнай палітыкі ў сферы гуманітарнай адукацыі, калі пахваліўся тым, што "за последние годы преодолена деидеологизация средней и особенно высшей школы".

Узяўшыся прасейваць тэксты школьных выданняў праз сіта ідэалагічнай цэнзуры, Дзяржаўная камісія дбала пра адпаведнасць іх зместу не столькі гістарычнай праўдзе, колькі ідэалагічнай лініі Лукашэнкавага рэжыму. Аднак нават адцэнзураваныя дапаможнікі не задавальнялі многіх членаў камісіі. Не выключана, што яны самі інспіравалі скаргі на ўжо прынятыя імі ж кнігі. У прэсе зьяўляліся лісты і публікацыі ад імя "ветэранаў" і "настаўнікаў", якія выкрывалі крамольныя выданні. Асаблівую ролю ў кампаніі супраць новых падручнікаў і нацыянальных падыходаў у гістарыяграфіі выконвала грамадзкае аб'яднанне "Гістарычныя веды", створанае ўвесну 1996 г. Згуртаваўшы некалькі дзесяткаў навукоўцаў старога веку, якія абвясцілі сябе "защитниками и сторонниками советской государственности и советской власти", яно прысвоіла сабе ролю своеасаблівага экспертнага органу, які стаў надзіва аўтарытэтным у дзяржаўных вярхах... У праграмным звароце, апублікаваным у прэсе, гэтая група, узначаленая прафесарам Адамам Залескім, заявіла, што будзе весці "борьбу против фальсификаций событий прошлого", выкарыстоўваючы "мировой опыт революций и контрреволюций". Невыпадкова "барацьбітоў з фальсіфікацыяй" найбольш непакоіла асвятленне падзей апошняй вайны, ацэнка партызанскага руху і савецкага ладу. Аднак займала іх і далёкае мінулае. Напрыклад, у падручніку "Гісторыя Беларусі XVI—XVIII стст." для 7 класу (аўтар П. Лойка) крытыкі бачылі "русафобства", не прымалі станоўчай ацэнкі царкоўнай уніі 1596 году і г. д., у "Гісторыі Беларусі. Канец XVIII ст. — 1917 г." (аўтар М. Біч) зноў жа катэгарычна не прымалі "русафобскіх" пазіцый аўтара і таго, што ён пакінуў без станоўчай ацэнкі "великое событие" — падзелы Рэчы Паспалітай і ўключэнне Беларусі ў склад Расійскай імперыі, а ў падручніку для 9 класу "Гісторыя Беларусі 1917—1992 гадоў" (аўтары В. Сідарцоў і В. Фамін) іх раздражняла адно ўпамінанне пра тое, што ў савецкай дзяржаве існавалі "антынародны таталітарны рэжым" ды "нацыянальны і культурны прыгнёт".

Дзяржаўная камісія ўважліва сачыла за зместам навучальных выданняў ня толькі па беларускай, але і па сусветнай гісторыі. Так, з падручніка "Сусветная гісторыя найноўшага часу" для 9 класу (Менск, 1998) яна выкрасліла як тлумачэнне тэрміну "таталітарызм", так і ўсё, што сведчыла пра супрацоўніцтва Савецкага Саюзу з гітлераўскай Нямеччынай, а таксама пра негатыўную ролю Сталіна і яго віну ў развязванні другой сусветнай вайны.

Адначасова з крытыкай "крамольных" выданняў прадстаўнікі старой савецкай школы пачалі пісаць свае, сапраўды альтэрнатыўныя дапаможнікі, у якіх ацэнкі падзеям і эпохам расстаўляліся ў поўнай адпаведнасці з ідэалагічным курсам рэжыму. Напрыклад, у дапаможніку Васіля Мілаванава "Гісторыя Беларусі. Канец XVIII ст. — 1917 г." для 8 класу, які выйшаў у 1998 годзе, падзелы Рэчы Паспалітай трактуюцца як "прагрэсіўнае дзеянне", што дало беларусам "магчымасць скінуць з сябе прыгнёт польска-літоўскіх феадалаў" (с. 4). Наступнай альтэрнатывай для вучняў 11 класу стала "Гісторыя Беларусі. Канец XVIII ст. — 1999 г." пад рэдакцыяй Яўгена Новіка. Расійскі генерал Міхаіл Мураўёў, якога за жорсткасць пры падаўленні нацыянальна-вызвольнага паўстання 1863—64 гадоў празвалі "вешальнікам", у гэтым дапаможніку паўстаў "энергічным дзяржаўным дзеячам, які з веданнем справы рабіў тое, да чаго быў закліканы", а дэнансацыя дагавору аб утварэнні СССР, заключанага ў 1922 г., і паўстанне СНД названыя дзяржаўным пераваротам.

Пад не менш пільнай увагай уладаў апынулася і гістарычная адукацыя ў вышэйшай школе. Яшчэ да пачатку яе рэсаветызацыі Інстытут гісторыі НАН Беларусі паспеў выпусціць "Нарысы гісторыі Беларусі" у 2-х частках (Менск, 1994—95), якія грунтуюцца на нацыянальна-дзяржаўнай канцэпцыі. Гэта была першая сінтэза айчыннай гісторыі, створаная ў суверэннай Беларусі. Некалькі гадоў яна выкарыстоўвалася як дапаможнік для студэнтаў ВНУ, што зусім не адпавядала новай дзяржаўнай палітыцы ў галіне вышэйшай адукацыі. Выпраўляць сітуацыю ўзяліся "прыдворныя" гісторыкі, і ўжо ў 1998 г. у якасці ідэалагічнай антытэзы акадэмічным нарысам выйшаў дапаможнік для ВНУ "Гісторыя Беларусі" ў 2-х частках, падрыхтаваны калектывам гісторыкаў-выкладчыкаў. Яго аўтары настолькі захапіліся выкананнем палітычнай замовы, што дапусцілі безліч фактаграфічных памылак, асвятляючы беларускае мінулае з пазіцый старой расійскай і савецкай гістарыяграфіі. Атрымалася мяккая рээдыцыя гісторыі "Паўночна-Заходняга краю", якая выклікала абурэнне не толькі навуковай грамадскасці, але і студэнтаў. Аднак у адказ на прадметную крытыку за безліч памылак і адкрытае падладжванне гісторыі пад ідэалагічны заказ рэжыму, змешчаную ў часопісе "Беларускі Гістарычны Агляд" і ў Штогодніку Інстытуту гісторыі, аўтары дапаможніка выступілі з палітычным даносам на сваіх апанентаў: "Часопіс [БГА] рэдагуецца прадстаўнікамі замежных краін, ... мае сваіх людзей у ЗША і краінах Еўропы", "вядома, хто ім заказвае музыку, хто плоціць за яе...", гэта орган "празаходняй, БНФ-аўскай палітыка-ідэалагічнай арыентацыі, які друкуецца за мяжой і завозіцца ў Беларусь". Супрацоўнікаў Інстытуту гісторыі на старонках прэзідэнцкага перыёдыка "Беларуская думка" прыраўнялі да "агентаў заходніх спецслужбаў", якія сваёй канцэпцыяй гісторыі спрабуюць "не допусціць стварэння саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі".

На жаль, палітычнаму курсу прэзідэнта, а не праўдзе гісторыі стараюцца дагадзіць і іншыя новыя дапаможнікі з грыфам "дапушчана Міністэрствам адукацыі", такія, напрыклад, як "Очерки истории Беларуси" П. Чыгрынава (Менск, 2000).

Пасля абвяшчэння курсу на перагляд падручнікаў і зьяўлення публікацый членаў клубу "Гістарычныя веды" з палітычнымі абвінавачваннямі апанентаў у сферы гістарычнай навукі і адукацыі запанавала нездаровая атмасфера. Сытуацыю асабліва абвастрыла публікацыя адкрытага ліста групы старых гісторыкаў-артадоксаў да А. Лукашэнкі з красамоўнай назвай "Работа по восстановлению исторической правды подвергается яростному сопротивлению со стороны национал-экстремистов". У адказ Рада Беларускай асацыяцыі гісторыкаў выступіла з заявай, у якой рашуча пратэставала супраць навешвання ярлыкоў і спробаў вярнуць гістарычную навуку Беларусі да часоў бальшавізму. Аднак улады адкрыта занялі бок невялікага кола савецкіх артадоксаў, што ўзяліся "ўзнаўляць гістарычную праўду".

Ва ўзніклых умовах кожная спроба пераглядзець савецкую гісторыю сутыкалася з бурнай рэакцыяй ветэранаў вайны і актыўных прыхільнікаў Лукашэнкі са славяна-патрыятычных колаў. Асабліва паказальны прыклад з дасьледчыкам сталінскіх рэпрэсій Ігарам Кузняцовым, які з-за сваіх публікацый быў так ашальмаваны імі ў прэсе, што мусіў бараніць свой гонар у судзе. У 1998 г. у адказ на правядзенне навуковай канферэнцыі "Палітычныя рэпрэсіі ў Беларусі: 1917—1997 гады", арганізаванай беларускімі гісторыкамі, старшыня згаданага аб'яднання "Гістарычныя веды" Адам Залескі, мастак Міхась Савіцкі і іх калегі звярнуліся да Генеральнага пракурора Беларусі з просьбай прыцягнуць да крымінальнай адказнасці аўтараў апублікаваных матэрыялаў — каб "защитить честь и достоинство президента А. Лукашенко" (?!). У гэтай жа справе кіраўнік прэзідэнцкай адміністрацыі Міхаіл Мясніковіч накіраваў у Інстытут гісторыі ліст з загадам "разабрацца з супрацоўнікамі" ды "прыняць меры". За "справу гісторыкаў" узялася і пракуратура. Калі раней толькі ветэраны і створаная імі з савецкіх артадоксаў грамадская камісія (В. Корзун, А. Залескі ды інш.) сцьвярджалі, быццам расстрэламі ў Курапатах займаліся фашысты, дык цяпер і Генеральны пракурор Алег Бажэлка заявіў, што яшчэ невядома, хто ў сапраўднасці пахаваны ў Курапатах, бо, маўляў, да 1995 г. расследаванне праводзілася скрайне неаб'ектыўна, паколькі ім займаліся "специалисты из Института археологии Академии наук во главе с Зеноном Пазьняком". Так стала афіцыйна

сцвярджацца "новая праўда" пра Курапаты.

Фактычна з таго ж 1996 году ў Беларусі была ўведзена палітычная цэнзура на гістарычную літаратуру. Адной з першых з планаў выдавецтва "Мастацкая літаратура" на 1996 г. чыноўнікі выключылі ўжо падрыхтаваную да друку кнігу Ў. Арлова і Г. Сагановіча "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі" (а таксама творы Васіля Быкава і Ларысы Геніюш), якая, на іх думку, была "напісаная тэндэнцыйна ў русафобскім напрамку", хоць праца прайшла сур'ёзную экспертызу ў Інстытуце гісторыі, які рэкамендаваў яе да выдання. У 1997 г. пасля негалоснага рашэння невядомых адпаведных асобаў быў спынены продаж папулярнай кнігі Ў. Арлова "Адкуль наш род". Але сапраўдным сімвалам увядзення цэнзуры ў краіне стала выдаленне гербу Пагоня з вокладкі чарговага, трэцяга тому "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (1996). Гэта зрабіла новае кіраўніцтва выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя", намеснікам галоўнага рэдактара якога быў прызначаны Пётр Петрыкаў — былы дырэктар Інстытуту гісторыі, адзін з самых актыўных апалагетаў савецкага мінулага. Ён выступіў з жорсткай крытыкай ранейшага кіраўніцтва энцыклапедыі, сцвярджаючы, што галоўнай адметнасцю першых тамоў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" быў "ярка выражаны антырусізм, а ў многіх выпадках зацятая русафобія". Прывёўшы ў прыклад некаторыя артыкулы, напісаныя супрацоўнікамі Інстытуту гісторыі, П. Петрыкаў абвінаваціў гэтую ўстанову ў тым, што яна ажыццяўляе "татальную фальсіфікацыю" гісторыі. Беспадстаўны і палітычны характар падобных закідаў паказалі дырэктар Інстытуту гісторыі Міхаіл Касцюк і яго намеснік Міхаіл Біч, якія ўступілі ў палеміку з былым калегам, аднак гэта не адвяло хмараў, якія пагрозліва згушчаліся над дырэкцыяй інстытуту.

Пры новых кіраўніках выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя" канцэпцыя чарговых тамоў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" на хаду мянялася, і нават падрыхтаваныя да друку артыкулы вярталіся на цэнзуру. П. Петрыкаў, напрыклад, паўсюль выкрэсліваў слова "русіфікацыя", не прапускаў ніякай крытыкі ў бок Расіі ды савецкай улады і г. д. З-за грубага ўмяшання ў тэксты многія гісторыкі (у прыватнасці, Валянціна Вяргей, Андрэй Кіштымаў, Уладзімір Конан, Мікола Крывальцэвіч, Генадзь Сагановіч і інш.) адмовіліся ад далейшага супрацоўніцтва з выдавецтвам і забралі адтуль свае артыкулы.

Наступным ударам па нацыянальнай гістарыяграфіі стала атака на рэдакцыю гістарычна-дакументальнай хронікі "Памяць". Члены аб'яднання "Гістарычныя веды" К. Дамарад і А. Хахлоў у 1998 г. накіравалі ліст у Адміністрацыю прэзідэнта і ў Дзяржкамдрук РБ, у якім з жорсткімі абвінавачваннямі абрынуліся на выданні гэтай хронікі і асабліва на кіраўніка яе арганізацыйна-метадычнага цэнтру Алеся Петрашкевіча, які, па іх словах, належаў да "реакционного направления во всей исторической науке Беларуси", што аформілася пасля "контрреволюционного переворота, совершенного в октябре 1991 г.". Выданню інкрымінаваліся ўсё тыя ж абвінавачванні: маўляў, раённыя "Хронікі" не раскрываюць сусветна-гістарычнага значэння рэвалюцыі 1917 г., прыніжаюць ролю камуністычнай партыі, сацыялістычнага будаўніцтва і перамогі ў вайне, раздзімаюць тэму сталінскіх палітычных рэпрэсій, праслаўляюць эксплуататараў (князёў і паноў), распальваюць антырасійскія настроі. У выніку гэтага даносу вядомы беларускі драматург і гісторык А. Петрашкевіч быў звольнены з пасады кіраўніка важнага энцыклапедычнага цэнтру.

Кампанія супраць галоўнай фартэцыі "фальсіфікатараў" — акадэмічнага Інстытуту гісторыі, які сапраўды зьяўляўся цэнтрам гістарычнай навукі, бо сабраў найлепшыя кадры краіны, пачалася таксама яшчэ ў 1995—96 гадах, і пакуль не скончылася. Чаго толькі не пісала афіцыйная прэса, абразліва называючы флагман беларускай гістарыяграфіі "националистическим заповедником", або заяўляючы, што яго дзейнасць "супярэчыць гістарычнай праўдзе, палітыцы прэзідэнта Рэспублікі Беларусь". Асабліва высільвалася газета "Веды" — перыядычны орган Нацыянальнай акадэміі навук і Міністэрства адукацыі, рэдактарскае крэсла ў якой было аддадзена члену той самай Дзяржаўнай камісіі па падручніках В. Дашкевічу. Найбольш паслядоўна і груба крытыкаваліся акадэмічныя "Нарысы гісторыі Беларусі", у віну якім ставілася тая ж "антыруская накіраванасць і прыніжэнне ролі савецкага перыяду", скажэнне гісторыі наагул. Крытыкі імкнуліся давесці, што гісторыкі з Акадэміі навук прафесійна непрыдатныя, а найбольш вінаваты дырэктар інстытуту акадэмік Міхаіл Касцюк. Публікуючы дылетанцкія, часта антынавуковыя матэрыялы членаў клубу "Гістарычныя веды", у якіх пераважалі эмоцыі і палітычныя штампы, галоўны рэдактар "Ведаў" абяцаў стварыць з іх спецыяльны навучальны дапаможнік, "азнаямленне з якім павінна стаць абавязковым у сярэдніх школах і ВНУ". Каб не дапусціць чарговага абрання дырэктарам М. Касцюка, Прэзідыум Акадэміі парушыў свой жа Статут і не абвясціў конкурсу на замяшчэнне вакантнай пасады. Больш за тое, у кастрычніку 1999 г. на ўрачыстасцях з нагоды 70-годдзя гэтай установы прэзідэнт НАН Беларусі Аляксандр Вайтовіч выступіў з жорсткімі палітычнымі абвінавачваннямі ў адрас дырэкцыі Інстытуту, якія даходзілі да абразаў, а праз месяц уласным загадам прызначыў на пасаду выканаўцы абавязкаў дырэктара Інстытуту гісторыі прафесара Мікалая Сташкевіча — былога супрацоўніка Інстытуту гісторыі партыі пры ЦК КПБ.

Выразным сімвалам арганізаванага наступу на Інстытут гісторыі стала прымацаваная на яго будынку на самым пачатку 2000 г. расійскамоўная мемарыяльная дошка колішняму прэзідэнту Беларускай Акадэміі Паўлу Горыну — акурат той асобе, якой у 1930-х бальшавіцкая ўлада даручала граміць нацдэмаўшчыну і арганізаваць акадэмію "сапраўдную камуністычную, падпарадкаваную інтарэсам сацыялістычнага будаўніцтва".

Пакуль можна канстатаваць, што М. Сташкевіч не выканаў ускладзеных на яго задачаў па "перавыхаванні" акадэмічных гісторыкаў. Жыццяздольнасць калектыву Інстытуту гісторыі і неэфектыўнасць палітыкі застрашвання засьведчылі выбары яго навуковай рады, праведзеныя на пачатку 2000 г. У выніку тайнага галасавання ў раду ўвайшлі пераважна супрацоўнікі з выразнымі прафесійна-грамадзянскімі і нацыянальнымі пазыцыямі. Таму Прэзідыум НАН, які абяцаў правесці афіцыйныя выбары дырэктара Інстытуту гісторыі ў канцы 2000 г., так і не адважыўся даць яго супрацоўнікам законную магчымасць абраць сабе кіраўніка. Наадварот, прэзідэнт НАН А. Вайтовіч публічна прыгразіў, што мае план ліквідацыі Інстытуту гісторыі і стварэння замест яго "Нацыянальнага інстытуту гісторыі пры Адміністрацыі Прэзідэнта", у які будуць набірацца кадры толькі адпаведнай палітычнай арыентацыі. Пэўна, гэта адзіная магчымасць пазбавіцца тых, хто з прафесійнага абавязку не пагаджаецца паставіць гістарычную навуку на службу палітычнаму рэжыму.

Калі падобны план перадачы кантролю над гістарычнай навукай Адміністрацыі прэзідэнта рэалізуецца, можна толькі здагадвацца, што панапісваюць пра мінулае Беларусі наваспечаныя спецыялісты ад гісторыі! Крэда "правільнага" асвятлення беларускай гісторыі (а фактычна — хімера убогай версіі "западно-руссизма" і панславізму) нядаўна было выкладзена адным з такіх "знаўцаў" у выданні Інстытуту сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь: "Белорус... по своей теоретической и практической жизни является русским человеком", а варожы славянам Захад "ведет тотальную информационно-психологическую войну против общерусского мировоззрения нашего народа"... Каментар тут даваць немагчыма, можна толькі ставіць дыягназ.

**********************************************

## Кастусь Езавітаў: надыйшоў час вяртання ў гісторыю

**Кастусь Езавітаў - адна з буйных і таямнічых постацей айчыннай гісторыі першай паловы XX стагоддзя. На жаль, гэтае імя сучаснаму адукаванаму чалавеку (у некаторых выпадках, нават з дыпломам гісторыка) ні пра што не гаворыць. Наогул, яно толькі цяпер вяртаецца да нас пасля доўгіх гадоў забыцця, ганьбавання і нават шальмавання ва ўмовах савецкага таталітарнага рэжыму...**

З жыццём і дзейнасцю К. Езавітава раней нават вузкае кола навукоўцаў магло пазнаёміцца толькі па дакументах спецфондаў архіваў. Цяпер сытуацыя зьмянілася. Аднак гэта прывяло да праблемы ацэнкі дзейнасці гэтага "чалавека-легенды".

Кастусь Езавітаў увайшоў у гісторыю як актыўны дзеяч беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння, першы беларускі генерал, вайсковы міністр БНР, арганізатар беларускага супольніцтва ў даваеннай Латвіі, адметны гісторык, педагог, публіцыст, паэт і перакладчык.

К.. Езавітаў нарадзіўся 5 лістапада 1893 года ў Дзвінску (цяпер Даўгаўпілс у Латвіі) у сям'і кадравага афіцэра. У 1916 годзе скончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут, а потым 4-месячны паскораны курс Паўлаўскага ваеннага вучылішча ў Петраградзе. Звязаў свой лёс з беларускім нацыянальным рухам яшчэ ў 1913 годзе, калі стаў удзельнікам Беларускай Сацыялістычнай Грамады. У 1917 годзе К. Езавітаў удзельнічаў у І-ым Усебеларускім кангрэсе і з'ездзе ваеннаслужачых Паўночнага фронту і быў уключаны ў склад Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады.

Падчас адыходу бальшавікоў з Менску ў лютым 1918 года ён прызначаецца вайсковым камэндантам Менска і начальнікам беларускага гарнізона. На гэтай пасадзе ім вялася вялікая праца па фармаванню беларускіх вайсковых часцей. Па сьведчанню дзеячаў таго часу, К. Езавітаў вызначаўся выдатнымі арганізацыйнымі здольнасцямі, адданасцю беларускай справе. Яго намаганнямі былі арганізаваныя ў Менску першыя беларускія настаўніцкія курсы. Адначасова К. Езавітаў узначальваў культурна-асветнае таварыства "Бацькаўшчына", прымаў удзел у арганізацыі творчай працы Беларускага тэатра.

У сакавіку 1918 года ён удзельнічаў у абвяшчэнні Беларускай Народнай Рэспублікі і быў абраны ў склад яе Рады ў якасці міністра ваенных справаў. Беларускі ўрад адзначыў выдатныя здольнасці ды заслугі К. Езавітава і надаў яму чын палкоўніка.

У снежні 1918 года, калі немцы адступілі і перадалі Менск бальшавікам, К. Езавітаў пераехаў у Вільню і супрацоўнічаў з Віленскай Беларускай Радай. Праз два месяцы ён быў прызначаны камандзірам 1-га Гарадзенскага беларускага пяхотнага палка.

З канца 1919-га і да пачатку 1921 года К. Езавітаў узначальваў Беларускую ваенна-дыпламатычную місію ў Эстоніі ды Латвіі. Ён арганізаваў у Рызе беларускае прэс-бюро, культурна-асветнае таварыства "Бацькаўшчына" і выступіў ініцыятарам выдання беларускамоўнага часопіса "На чужыне".

Пасля падпісання Рыжскага міру беларуская місія ў Рызе была закрыта, але К. Езавітаў яшчэ на працягу звыш 20-ці гадоў працаваў у якасці старшыні Беларускага нацыянальнага аб'яднання ў Латвіі, прыкладаючы ўсе свае арганізатарскія здольнасці да нацыянальна-культурнага развіцця і згуртавання 75-тысячнай беларускай сялянскай супольнасці Латвіі.

У мэтах распаўсюджвання ідэяў беларускага адраджэння ў 1925-1934 гадах ён выдаваў газету "Голас Беларуса" і часопіс "Беларуская школа ў Латвіі". Яму належаць такія манаграфіі па беларусазнаўству, як "Беларусы і палякі" (1919), "Беларусы ў Латвіі" (1927), "Беларусы ў Літве" (1932).

У 1925 годзе К. Езавітаў праходзіць па судовай справе так званага "Беларускага працэсу". Адседзеўшы 11 месяцаў у дзвінскай турме, быў апраўданы і вызвалены...

З пачатку Вялікай Айчыннай вайны і да чэрвеня 1944 года ён жыў у Рызе... Пры наступленні часцей Чырвонай Арміі з немцамі эвакуяваўся ў Берлін.

27 чэрвеня 1944 года К. Езавітаў прыняў удзел у рабоце II Усебеларускага кангрэса ў Менску...

К. Езавітаў быў арыштаваны 26 красавіка 1945 года ў Загане (Нямеччына) контрразведкай "Смерш", потым этапіраваны ў Маскву, а адтуль у кастрычніку-лістападзе 1945 года пераведзены ў Менск. Паводле афіцыйнай версіі, ён памёр ад сухотаў падчас следства 23 траўня 1946 года. Ёсць звесткі, што пасля жорсткіх катаванняў ён быў расстраляны ў Менску або павешаны ў Віцебску.

Тое, што мы ведаем сёння пра К. Езавітава, стварыла ў нашым уяўленні вобраз яго як палымянага беларускага нацыянал-патрыёта, які ўсё жыццё сваё прысвяціў служэнню вялікай і высакароднай справе – нацыянальнага самавызначэння беларускага народу, стварэння дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. К. Езавітаў -- асоба таленавітая, неардынарная, шматбаковая, складаная і супярэчлівая. У яго біяграфіі яшчэ нямала "белых плямаў", што патрабуе пошукаў новых дакументаў і ўзважлівых, аргументаваных высноў.

С. Раўнейка – (Пагоня)

# Рэзэрвацыя Беларусь

Алесь Чобат – паводле Сакрата Яновіча

**Чацвёртага верасня Сакрат Яновіч адзначыў сваё шэсцьдзесят пяць. Рэдкі беларус, перафразуючы Гогаля, даляціць да такога веку... Гэты даляцеў і то яшчэ як! З боку заходняй мяжы Рэспубліку Беларусь пазнаюць... у Крынках, у мястэчку Сакрата Яновіча. Да Аляксандра Лукашэнкі ў Менск спяшаюць адны дыпламаты з Уніі, замучаныя службай і цывілізатарскімі мроямі людзі.**

**Беларусь Яновіча - гэта мястэчка на Крэсах. Культура Памежжа. Што належыць і лацінскаму Захаду, і візантыйскаму Усходу. Што дэмакратычнай Еўропе, што савецка-стыхійнай Расеі. Пра гэта ўсе ягоныя кнігі. Унікальны, нікім больш не сьпісаны досьвед чалавечага жыцця і чалавечых памылак. Той наш, беларускі, досьвед, тая доля на Крэсах, без разумення якой ні можа цывілізацыя вырашыць свае праблемы. Напрыклад, на Балканах...**

Менск - гэта тыповая каланіяльная метраполія. Два мільёны ў ледзь 10-мільённай краіне. Савецкі Саюз даў яму ўсё, што палагалася адно Маскве: метро ў мармуры, шырачэзныя праспекты, кіламетры адміністрацыйных будынкаў. Гэта ўсё цісне на чалавека...

З Менска прыехаў на пачатку снежня 2000 года. Быў там на III Кангрэсе Беларусістаў (амаль тое ж, што Кангрэс Культуры Польскай, толькі што пад Лукашэнкам).

Панаехала троху з Еўропы і Сьвету тых энтузіястаў беларускай культуры. Не было як іх паразганяць. Таму цярпелі. Але на ўсялякі выпадак ні друк, ні тэлебачанне ў Менску слова не вякнулі - як быццам пазбіраліся тыя, хто дурных папугаяў гадуе...

Розніліся тыя кангрэсы ў Менску і Варшаве - у братоў-палякаў не мёрз я ў брудным гатэлі і не галадаў у халодным рэстаране. Хіба што прафесараў і чыноўнікаў там і там было роўна... У Менску не далі мне слова сказаць (У Варшаве спакойна адчытаў рэферат "Памежжа - гэта будучыня"); адразу за мной вылез нейкі палітрук у зношаных штанах і пачаў расьпінацца пра "дружбу народов"...пакуль не пайшоў я, дзвярыма бразнуўшы. Мордай той палітрук да Берыі быў падобны...

І адваротнай дарогай стрэліла мне ў галаву, што Рэспубліка Беларусь - гэта дзяржава не нацыянальная, не беларуская. І нават не сацыяльная, як мяне намаўляюць мае калегі, бо на справе гэта ёсць рэзэрвацыя, дзе знайшлі прытулак "русскоязычные" разьбіткі па Савецкім Саюзе - з Эстоніі, Латвіі, Літвы, а хоць бы з былой ГДР ("группа советских войск в Германии"! - **А.Ч.**), троху з Украіны, троху з Цэнтральнай Азіі...

Рэспубліка Беларусь - гэта пасавецкі сметнік. У яе верхнім уладным эшалоне амаль няма ўжо беларусаў, нават тых, калхознейшых калхознікаў. Такога не было ў часах СССР (былі Мазураў з Машэравым, Кебіч з Арцыменем! - А.Ч.). Тады Масква трымалася нейкай прыстойнасці. А цяпер беларусы "нежалезныя", за Лукашэнкам робяць, што хочуць...

**Пасавецкі сьметнік**

Той "гнойнік" тлумачыць шмат. Тая зберанiна разбіткаў адусюль у галаве не мае інтарэсаў той краіны, дзе ім даводзіцца жыць. Гэта акупанты, у якіх адна свая скура ў галаве. Грабежнікі! Адным зацікаўленыя: уладку ўтрымаць, крэсялкі. Чаго баяцца яны? Усяго! Нават гаспадарчых кантактаў... з Расеяй. Пра беларускую культуру ўжо не кажучы. Душыць беларускую культуру на Беларусі, у абдымках савецкіх "тожа беларусаў", неверагодна проста. Дастаткова яе... не падтрымліваць. І Эўропа нічога не апратэстуе, і хам яе сам затопча. Бо мову беларускую заезныя "ванькі" ды іх калгасныя "манькі" трымаюць... адно на "дажынках" - як мову дурных даярак і падпітых механізатараў. А вышэй, у менскіх кабінетах, гэта мова... дыверсантаў і паліцаяў з праклятага Захаду.

Тут не ў тым справа, "разумее" савет пабеларуску ці не "разумее". Бо разумее - і то яшчэ як! Таму і вучыцелькаў савецкіх з іх дэкарацыйным курсам у школе трымае. Другое яму сніцца - каб мова беларуская была "дажынкавай", кніжнай, мёртвай, непатрэбнай самім беларусам з ранку да вечара...

Ненавідзяць у Менску беларускую мову! Хамы і хамкі на бруку і ў гандлю! Ненавідзяць - і канец! А тая тысяча "беларусістаў" -прафесараў - гэта сьмех адзін і паказуха для дурняў з Эўропы. Пагоды яна не робіць. Тыя ж "змагары за беларушчыну", што вымалілі там і тут пару-тройку школьных класаў, і нават школаў беларускіх, робяць насамрэч на тую ж Імперскую паказуху...

Мова беларуская ўзнаецца як мова... апазіцыі. От, так сабе: для пісаніны, для крыку, а хоць для хлеба... Не болей.

На лаціну ў часах магнатэрыі ці на французскую ў часах Расейскай імперыі, на мову салонаў яна не выцягне. Бо наверсе яшчэ горшыя хамы, чым на доле.

Ніякай беларускай школы на Беларусі няма (прашу міністра Стражава наладзіць Яновічу адпаведныя экскурсіі, як некалі сталіністы вазілі Барбюса альбо Сартра! - **А.Ч.**). Тое самае, што тут, на Падляшшы. Няма ніякай нацыі беларускай, канец па ёй, гной адзін. А тыя "начальнікі" ўжо ўласны язык зубамі ад злосці грызуць, калі са мной змушаны на "той мове дурной гаворацъ"! Беларускага акцэнту ў савецкай гвары не пазбыліся, а калгаснага акцэнту ў вясковай гаворцы насмецілі поўна... Пот з іх цячэ ручаём! Душацца людзі!

Беларусы - гэта тапельцы, утапіліся яны разам з вёскай; места заўжды было чужое беларусам, а беларусы чужыя месту. Спроба перанесці вёску да места ва ўмовах поўнай залежнасці ад гаспадаркі Расеі цяпер вылазіць бокам. Свайго не нарабілі, чужога не засвоілі, на ўсё наплявалі... Жывуць на постсавецкім сметніку.

**Палігон Пуціна**

На тым агромністым сметніку па Савецкім Саюзе, пры наяўнасці тысячаў разбіткаў (ды іх жонак і дзетак!) з былых савецкіх дывізіяў, у тым ліку вывезеных сюды ў "гарбачоўскія ўцёкі" 1990 года, тут ня можа быць нічога, што хоць неяк ажыўляла гэты Край.

Бо што значыла б тое ажыўленне? Тое, што аўтахтоны, "тутэйшыя" (хоць сабе і "колхозники"!), так ці іначай даводзілі б да голасу, да ўлады, да падзелу бюджэту... Барані ад таго таварыш Ленін! І калі цяпер Еўропа не разумее, чаму Беларусь "імкнецца да самаізаляцыі", то дурная тая Еўропа. Гэта савецка-імперскі сметнік імкнецца да самаізаляцыі. А куды яшчэ ён можа імкнуцца?!

Ну, і навошта тым імперскім разбіткам тут хоць бы якая актыўнасць, што гаспадарчая, што палітычная? Які гэта акупант, калі дбаў пра развіццё акупаванай тэрыторыі?!

А Расеі такая "паўдзяржаўка"... выгодная. Па-за выгодамі чыста мілітарна-стратэгічнымі тую Беларусь можна выкарыстаць... ва ўнутранай расейскай палітыцы. Яна як мёд з малаком для душы постсавецкага падыхаючага электарату, які мроіць пра "восстановление СССР" - тым хапае пакуль што сталінскіх гербаў, сьцягоў і гімнаў. У выпадку чаго заўжды можна выцягнуць з кішэні эфемерны ZBIR (па-польску ZBIR - гэта "саюз Беларусі ды Расеі" і па-польску ж "zbir" - гэта злодзей - **А.Ч.**). Рызыка тут о'кей! Толькі што прэзідэнт Пуцін геніяльна зрабіў так, што ніколі не дойдзе да той поўнай інтэграцыі Беларусі ў Расею (Жырыноўскі з Яўлінскім з іх "шестью областями" могуць заткнуцца! - **А.Ч.**). І ня толькі страшэнна вялікія выдаткі, але дапатопны ўжо цяпер, не гаворачы пра яшчэ 20 гадоў, узровень гаспадаркі Рэспублікі Беларусь таму прычынай. Бо Беларусь для Расеі... такі самы гадзюшнік усялякага бальшавізму, небяспечны для былой Імперыі, якая спрабуе выбіцца на ўзровень цывілізаванай супэрдзяржавы. Крэмль не бярэ ў галаву менскіх мрояў, што нехта з некім раптам "падзеліцца уладай"... Бо па халеру?! А тыя разбіткі з Латвіі ці Эстоніі няхай на падменскіх дачах сядзяць, не на падмаскоўскіх. Таму "таталітарны рэжым" у Менску "братанам" маскоўскім усё ж патрэбны...

Але - ці доўга Еўропа будзе цярпець тую "чорную дзіру", Рэспубліку Беларусь? А доўга, яшчэ як доўга! Справа ў тым, што няма тытульнай нацыі на Беларусі. Няма беларусаў. Саветы адны. "Калхознікі". Тлум дзяцей. "Клан кланаў"... А як файна адміністрацыя іх абула! Навыдумлялі мо з сотню "меншасцяў"; цяпер пяцьдзесят карэйцаў "роўныя" 10-ці мільёнам беларусаў, а беларусы "апушчаныя" туды, дзе 50 карэйцаў. У палітычны фальклор. Туды ж заадно апусцілі і заўважныя "меншасці", не пашкадавалі не толькі палякаў (каля 0,5 мільёна чалавек), а нават "старших братьев" рускіх (каля 1 мільёна чалавек). Край "Рэспубліка Беларусь" ёсць адміністрацыйнай адзінкай, а гэтак ніколі ён не будзе ўзнаны суседзямі за роўнага партнёра... Будзе ён гняздом чужых чмялёў, восаў і трутняў. Пуцінскім палігонам. Бо сёння беларус - гэта любы фраер з "сіненькім пашпартам". Нуль пад нулём! Такі... "недаструганы рускі". Савет. Без паняцьця пра навакольны Сьвет Божы.

**Люд просты свайго не забудзе**

Цяпер пра апазіцыю - "просты народ" хай перадыхне. Па сутнасці, гэта адбітак "рэжыму" ў люстэрку. Ад пачатку не было там дзвюх тысячаў чалавек (тут Сакрат "перабірае": было там і пару дзесяткаў тысячаў, але... гэта доля працэнта на 10 мільёнаў чалавек! - **А.Ч.**), сталічных "інтэлігентаў". Такія ж былі наклады беларускіх кніжак (парасейску друкавалі па 100 тысячаў і болей). Менск - гэта нешта чужое. Нейкая каланіяльная мэтраполія. Адзіная сталіца ў Еўропе без гісторыі, без прадмесьцяў. Лезе дзевяціпавярхоўкамі проста з жыта, як пачвара. Ці хоча страшыць Беларусь, як некалі падупалы Рым ужо населеную варварамі імперыю?!

За часам Гарбачова Менск быў акварыумам - яго не смажыць хацелася, адно аглядаць. А як прыйшоў з воляй народа Вялікі Хам, якога прадбачыў яшчэ Дастаеўскі, той акварыум плеснануў на брук, і час ад часу ў тую калюжу даліваюць новых наіўнякоў з "апазіцыі": карасі, акуні, шчупакі, плоткі дурныя, карпы сонныя.

Лукашэнка ўразіў мяне тым, што самазабойча, здавалася б, сам множыць шэрагі той "апазіцыі", выкідаючы дзядоў і сапляков з уласнай службы. Але ж ён ведаў тое, чаго Еўропа не ведала! (І ведаць ня хоча, бо дурная - **А.Ч.**). Бо нават Мілошавіч можа прайграць, таму што сэрбы - гэта нацыя, а раз Мілошавіч прайграў, то нацыі ён без патрэбы. А Лукашэнка кіруе 10-мільённым Нікім, кішкамі з глоткі да сракі. Апазіцыя палохае, былыя міністры і губернатары маніфестуюць - а нічога з таго! Люд свайго не забудзе: парасё без кары вішчыць і будзе вішчаць. І то люд цешыць! Таму дурному "люду" да галавы не прыходзіць, што "старых" павыкідалі не каб яго пацешыць, але каб месца для ўцекачоў з Латвіі вызваліць... Зараз у Рэспубліцы Беларусь беларуса нават у сельсавеце са свечкай удзень шукаць будзеш! Зразумела, бо тыя прыбышы ціхія, змовы не ўчыняць... Рэспубліка Беларусь дарастае да афрыканскай дзяржавы ў цэнтры Еўропы - тут лічыцца адна каса (націск на першым складзе) і невялікі, але верны гарнізон. А і апазіцыя можа быць! Гэтакі прыдурнелы, як і "дажынкі", палітычны фальклор надта ж патрэбны гультаям – "наглядальнікам" з Эўропы. Тая "апазіцыя" і да таго ж за "імперыялістычныя" даляры адрабляе надзвычай карысную для "таталітарнага антынароднага рэжыму" работу. Бо робіць выгляд, што і тут ёсць нейкая там "дэмакратыя", "правы чалавека", "незалежнасць", "нацыянальная дзяржава"... Той Лукашэнка мог бы ўсіх пасадзіць альбо замардаваць за адну ноч - але па халеру?! Ганчар з генералам Захаранкам самі ва ўладзе былі; найвідочней, пад "шэраговых" халуёў трапілі,.. а Пазьняк уцёк і пажыве, пакуль у Варшаве яго камандосы не дастануць.

Гульня ідзе ў смерць нацыі беларускай. Бо тая смерць... ужо адбылася. Цяпер скачы, шукай вінаватых! Каму брытву завостраную паміж кішкамі і каленямі прыкласці, той у чым хочаш прызнаецца, кім хочам будзе... Бо "в последнюю минуту" нават тым "беларусістам" знайшлі менскія саветы залу ў Акадэміі навук - быццам ціха сядзелі, быццам чуваць пра іх не было нідзе.

Ніколі не бачыў столькі шчаслівых лупаў! Шчаслівых тым, што здыхаюць!

<><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><>

# Беларусам не хапае волі да свабоды

**Такое меркаванне вядомы беларускі літаратар выказаў падчас прэзентацыі свaёй новай кнігі гістарычнай прозы "Сон імператара" ў мінскай Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы.**

Адказваючы на пытанні, пісьменнік адзначыў, што для яго самым прынцыповым момантам падчас прэзідэнцкіх выбараў стала акцыя на Кастрычніцкай плошчы Мінска вечарам 9 верасня. "У сталіцы ў мінулым былі акцыі апазіцыі, у якіх часам удзельнічалі да 50 тысяч чалавек. Аднак у такі адказны дзень на плошчы сабраліся ўсяго некалькі тысяч", -- сказаў Арлоў.

Паводле яго слоў, спробы некаторых апраўдаць непагодай сваю адсутнасць на Кастрычніцкай плошчы выглядаюць недарэчнымі. "Спасылкі на дождж тых, хто адносіць сябе да дэмакратычнай апазіцыі, толькі пацвярджаюць той факт, што мы яшчэ не дараслі да перамогі", -- падкрэсліў пісьменнік.

Уладзімір Арлоў лічыць, што сёння справа нацыянальнага адраджэння шмат у чым залежыць ад сітуацыі ў сям'і. "Ад таго, якія імёны мы даем дзецям, на якой мове з імі размаўляем, якія казкі ім чытаем, як ставімся да беларускіх святаў і традыцый, залежыць будучыня новага пакалення, а значыць і краіны", -- лічыць пісьменнік...

==========================================

# ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Моцна просім не забывацца пераслаць гадавую АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты...

*З Расеі пра Расею*

# Чаму Пуцін так цесна супрацоўнічае з Захадам

Віталь Портнікаў, Масква – (Н. Н.)

Рашэньне Ўладзімера Пуціна пра закрыцьцё двух вайсковых аб'ектаў за мяжой, якія Расея атрымала ў спадчыну ад СССР, — базы ў Віетнаме і радыёлякацыйнай станцыі на Кубе — назіральнікі назвалі сэнсацыйным. Іх зьдзівіла не інфармацыя пра Віетнам — зьвесткі пра хуткую ліквідацыю зьявіліся яшчэ колькі месяцаў таму.

Сапраўднай сэнсацыяй сталася паведамленьне пра станцыю на Кубе, якая была адным з найбольшых дасягненьняў СССР у часе халоднай вайны. Нідзе больш войска аднае звышдзяржавы не набліжалася так моцна да войскаў іншай. Таму ліквідацыя базы, зьмешчанай у валоданьнях Фідэля Кастра, мае вялізнае сымбалічнае значэньне, і дзеля гэтага сымбалічнага жэсту Расея згаджаецца на такі значны пралом у сыстэме выведкі.

Масква на ўсю сілу сыгналізуе Вашынгтону: “Мы з вамі!”, карыстаючыся ўсімі сыгнальнымі сьцяжкамі, якія мае. Зь Віетнаму, з Кубы, з Таджыкістану і з Узбэкістану… Мае знаёмыя дыпляматы, якія працуюць у Галоўным штабе *NATO*, распавядалі, што ўсё гэта абуджае ў Брусэлі вялізны энтузіязм. Польскі прэзыдэнт падчас візыту ў Маскву прадказвае, што ў будучым Расея зробіцца ўдзельнікам Паўночнаатлянтычнага альянсу… Словам, ідылія эпохі тэрору!

Аднак варта паспрабаваць зразумець, навошта Пуцін гэта паабяцаў і што будзе заўтра?

Палкоўнік Пуцін не зьяўляецца ідэалістам, які кіруецца ў сваіх учынках верай у тое, што, толькі аб'яднаўшыся, чалавецтва пераможа тэрарызм, і таму Расея павінна быць з Амэрыкай і Захадам. Расея мае зараз шанец зрабіцца часткай заходняга сьвету, не зьмяняючы замежнай і ўнутранай палітыкі. Калі нават Пакістану прабачаюць ваенную дыктатуру й здымаюць супраць яго санкцыі, хто будзе прыгадваць Расеі ейную “кіраваную дэмакратыю”, дзіўны хаўрус зь Беларусяй або Чачэнію?

А калі немінучы спад цэнаў на нафту загоніць Расею ў тупік, Захад напэўна чым можа дапаможа “таварышу Ўладзімеру”. Дапаможа, бо “таварыш Уладзімер” наш і яшчэ які наш — больш наш, чым генэрал Мушараф!

Адвечная праблема кожнага заможнага мужчыны — чаму яна мяне выбрала: па каханьні ці з-за маіх грошай? Зразумела, будзе лепей, калі пуцінская Расея скіруецца на Захад, чым заставацца ў “вечным расейскім нідзе”. Але трэба ўсьведамляць, што кіраўніцтва Расеі не да канца яшчэ разумее, дзе месца нашае дзяржавы, а, выбіраючы саюзьнікаў і спонсараў, кіруецца каньюнктурнымі меркаваньнямі. А калі сытуацыя зьменіцца, можа зьмяніцца і выбар, што моцна ўразіць Захад, упэўнены, што “Расея з намі па каханьні”. Бо калі Расея насамрэч прыйдзе на Захад — Захад павінен зрабіць усё, каб ня даць ёй сысьці.

=====================================

**Ці трэба беларусам баяцца збліжэньня Расеі з Амэрыкай?**

# Вяртаньне на зямлю

Расея і ЗША блізкія да вырашэньня асноўных супярэчнасьцяў, што падзялялі іх у апошнія гады: па стаўленьні да стварэньня Амэрыкай новай сыстэмы проціракетнай абароны і да пашырэньня *NATO* на ўсход. Расея выракаецца ранейшых прэтэнзій і прапануе Амэрыцы найцясьнейшае партнэрства. Паветраная прастора Расеі адкрытая для амэрыканскіх вайсковых самалётаў. Сібір гарантуе кампэнсацыю патрэбаў Эўропы ў паліве ў выпадку зьмяншэньня паставак з Блізкага Ўсходу. Амэрыка адказвае ўзаемнасьцю: “Скончылася ня толькі халодная вайна, скончыўся і пасьляхалоднаваенны пэрыяд”, — заявіў дзяржсакратар Колін Паўэл у Шанхаі.

Збліжэньне Масквы й Вашынгтона выклікае перасьцярогі беларускіх незалежнікаў, якія ўсе 90-я гады выкарыстоўвалі геапалітычнае суперніцтва Крамля з Захадам дзеля зьберажэньня сувэрэнітэту Беларусі і пошуку рэсурсаў на дзейнасьць “паралельнага грамадзтва”. Незалежнікі баяцца апынуцца сам-насам з маладым расейскім капіталізмам звонку і самадурствам савецызуючае вярхушкі ўсярэдзіне.

Яны недаацэньваюць той факт, што за 80—90-я беларуская нацыянальная ідэя настолькі ўмацавалася ў грамадзтве і, галоўнае, у дзяржаўным апараце, палітычных і гаспадарчых элітах, што само гэта робіць Беларусь самастойным гульцом на міжнароднай сцэне. Вялікія пагрозы беларускай незалежнасьці засталіся ў мінулым. Нават міжнародная ізаляцыя беларускае вярхушкі нічога не мяняе. Сувэрэнітэт успрымаецца беларускімі элітамі як нешта неад'емнае. Амаль неймаверна, каб яны хоць калі паставілі яго пад сумнеў. Маразматыкі або нават “агент” у менскім кіраўніцтве нічога не змаглі б з гэтым парабіць. Летуценьнікі-імпэрыялісты ў Маскве хай разьвітаюцца з ілюзіямі.

Гэта зьмяняе і ўмовы палітычнае гульні ў Беларусі. Абарона нацыянальнае незалежнасьці перастае быць палітычным козырам сама па сабе. Замест абароны незалежнасьці беларуская выбарцы чакаюць абароны нацыянальных інтарэсаў.

Збліжэньне Вашынгтону і Масквы адбываецца на цалкам новых асновах. Масква адмаўляецца ад глябальных прэтэнзіяў. Маскоўская прэса спрабуе прадставіць справу так, нібыта яна робіць гэта ўзамен на правы на рэгіянальнае лідэрства ў СНД.

Так гэта ці не, будучыня Беларусі можа быць толькі такой самай, як і будучыня дзясятка нашых сярэднеэўрапейскіх суседзяў. Часовыя адрозьненьні гістарычна неістотныя і ўрэшце будуць пераадоленыя. Геапалітычная сытуацыя Беларусі выключае іншыя варыянты. ЗША ня могуць ставіцца да Беларусі прынцыпова інačай, чым да суседак. Ня зьменіцца й пазыцыя Эўропы. Адзін рэгіён — адно стаўленьне. Маскве прыйдзецца з гэтым прымірыцца. Сьвядомасьць беларусаў не была гатовая да пераходу з-пад апекі Масквы ў заходні сьвет на пачатку 90-х. Цяпер шмат што памянялася. Усе 90-я галоўнай сувэрэнізуючай і празаходняй сілай у краіне была апазыцыя. Сувэрэнітэт адстаялі. Цяпер такой сілай стане дзяржаўны бюракратычны апарат. А ён — надзейная сыстэма.

Небясьпечны вуглік сібірскае пыхі яшчэ разьядае час-часам цяперашнюю Расею. Аднак рэальныя магчымасьці нашае “саюзьніцы паняволі” сьціплыя. Расея — геаграфічны, інфармацыйны і атамны волат. Ва ўсім астатнім яна мае невялікі патэнцыял. Маральны крызыс ёй не ўдалося спыніць. Яе рынкавая эканоміка моцна крыміналізаваная. Мэтастазы расейскага крызысу ўсе 80-я і 90-я падточвалі й Беларусь.

Пара развітацца зь пачорным уяўленьнем: чым горш маскалю, тым нам лепш. Беларусь і Расея — не спалучаныя сасуды, каб з аднаго ў адзін нешта перацякала. Менавіта таму, што Беларусь і Расея за XX ст. ператварыліся ў два асобныя нацыянальныя арганізмы, прагрэс Расеі азначае таксама прагрэс Беларусі.

Чым болей дэмакратыі ў Расеі, тым болей яе будзе ў нас. Чым мацней вэстэрнізуецца Расея, тым лягчэй рэалізуецца заходняе пакліканьне нашага краю-зубра. Чым больш плёну дадуць пуцінскія рэформы, тым больш умацуецца беларуская гаспадарка, а разам зь ёй і пачуцьцё здаровага беларускага эканамічнага нацыяналізму. Альянсу Расеі з Амэрыкай ня трэба баяцца.

Усё вяртаецца зь нябёсаў на зямлю: і Масква на чале з рэалістам-Пуціным прызнае, што можа захавацца як дзяржава толькі пад крылом Амэрыкі. І Беларусь — насуперак усім ілжэпрарокам — ня можа не застацца незалежнай. Непазьбежнае спаўняецца.

**Андрэй Дынько** - (Наша Ніва)

*****************************************************************

Вінцук Вячорка адказвае:

# АПАЗІЦЫЯ: ШТО ДАЛЕЙ?

***— Вінцук, адбылося тое, што адбылося: Лукашэнка застаўся пры ўладзе. І гэта крыўдна...***

— Мне здаецца, што сёння галоўнае для ўсіх, хто галасаваў супраць Лукашэнкі, хто змагаўся за змены ў нашай краіне, – не ўпадаць у расчараванне. Так, Лукашэнка загадаў сваёй “вертыкалі” намаляваць яму 75 працэнтаў галасоў. Ну, намалявалі... Але ж людзі не дурныя. Яны пытаюцца адзін у аднаго – хто як галасаваў? Вядома, за каго аддалі галасы родзічы, сябры, саслужыўцы, можна здагадацца, як галасавалі суседзі. І калі высвятляецца, што вакол цябе амаль ніхто не быў “за Лукашэнку”, узнікае пытанне: як ён перамог? Дзе нашы галасы? Значыць, іх укралі.

Вось чаму першая задача дэмакратычных сілаў – зноў і зноў тлумачыць людзям, як выбары фальсіфікаваліся. Арсенал сродкаў для махлярства ў нашай улады велізарны: ёсць класічныя махінацыі, ёсць мясцовыя “ноў-хаў” накшталт папярэдняга галасавання. Відаць, многіх чытачоў “Рабочага” заганялі на гэтае “папярэдняе” начальнікі цэхаў, каменданты інтэрнатаў, дырэктары прадпрыемстваў. Прымушалі, палохалі: мауляў, звольнім, выселім, пакараем... Чаму? Таму што пры папярэднім галасаванні, карыстаючыся адсутнасцю назіральнікаў, скрыню з бюлетэнямі вельмі проста падмяніць. Дык вось, па-першае, няхай людзі запомняць на бліжэйшыя пяць гадоў, як і на чым іх падманулі... Яшчэ спатрэбіцца.

Па-другое... Рэжым заплаціў за перамогу на выбарах вялікую эканамічную цану. Маю на ўвазе не толькі подкуп “вертыкалі”. Успомнім хаця б ліхаманкавыя спробы забяспечыць рэгулярныя выплаты заробку. У выніку зараз плаціць няма чым – нагадаю нядаўнія падзеі на МТЗ. Аддаваць пазыку трэба і ўсходняму суседу: расійскія алігархі, што дапамагалі Лукашэнку гэтым летам, зараз кладуць вока на вялікія кавалкі беларускай уласнасці. Для нашай эканомікі такая змена гаспадароў не нясе ні дадатковых сродкаў, ні новых тэхналогій, новыя ўладальнікі толькі знімуць вяршкі, пакінуць сабе тыя вытворчасці, што ім выгадныя, а самі прадпрыемствы скарацяць, людзей выкінуць на ву-ліцу. Таму марнаваць час нельга: дэмакратычныя сілы Беларусі (БНФ у тым ліку) плануюць неўзабаве распачаць кампанію “Барані сваё!”, накіраваную супраць распродажу нашых прадпрыемстваў.

***— Хвілінку! Менавіта ад дэмакратаў мы доўга чулі, што ў беларускай эканоміцы патрэбны зрухі, інакш да нас не прыйдуць інвестыцыі, мы не пакрочым наперад... Можа, прыход расіян – гэта і някепска? Якая розніца, адкуль грошы – з Захаду ці Усходу?***

— Адна справа, калі аб'яўляецца конкурс на лепшы праект пераўтварэнняў на тваім заводзе, і ў гэтым конкурсе на роўных удзельнічаюць рускія, амерыканскія, нямецкія і, напрыклад, японскія кампаніі. Чый праект лепшы – таго і абіраеш. Але тут іншы варыянт: прадпрыемства ўжо наперад запрадалі на невядомых умовах. Далей... Калі ўладальнікам становіцца нямецкі ці японскі інвестар, мы мусім чакаць, што ўслед да нас прыйдуць новыя тэхналогіі, новыя стандарты працы, новыя рынкі, што Беларусь такім чынам далучыцца да сусветных эканамічных працэсаў. Але, на вялікі жаль, у Расіі няма нармальнай рынкавай эканомікі. Яна не ўключана ў сусветную тэхналагічную і эканамічную прастору. Затое мае вялікі досвед бандыцкіх разборак вакол перспектыўных прадпрыемстваў, досвед “кідалава” і заказных забойстваў... І нельга дапусціць, каб гэтыя жудасныя традыцыі пераносіліся на беларускую глебу. Тут не аздараўленне эканомікі па законах цы-вілізаванага свету, а наадварот – адрыў ад гэтага свету.

***— Аднак і ўлада павінна бачыць, што сітуацыя кепская. Нездарма ж з яе боку можна зараз пачуць, што і з вёскай трэба нешта рабіць, і з прадпрымальнікамі неяк дамаўляцца...***

—А хто сказаў, што ў Лукашэнкі простая сітуацыя? Ён сам загнаў сябе ў кут перадвыбарчымі абяцанкамі. Ён ведае, што не набраў тых аб'яўленых 75 адсоткаў. Ён ведае, што гэта ведаюць іншыя. Ён ведае, што эканоміка рассыпаецца і трэба нешта рабіць. Адсюль і намёкі на магчымыя змены. Але Лукашэнка не пойдзе на іх. Бо людзі, якія сёння выступаюць за шлях экана-мічнай свабоды, заўтра запатрабуюць і свабоды палітычнай.

***— Вінцук, а нашы дэмакраты не памыляюцца? Не падманваюць самі сябе? Мы жывём у рэальным свеце.***

— Абапірацца трэба на гэтых самых людзей – хаця б таму, што іншых няма. І справа тут не ў нейкай сацыяльнай ці ўзроставай прыналежнасці. Сярод маладых і старых, сярод сялянаў і бізнесоўцаў, сярод рабочых і дзяржаўных менеджэраў (якіх прынята называць наменклатурай) ёсць смелыя і баязліўцы, разумныя і дурні, сумленныя і несумленныя... Мне здаецца, што праблема ў іншым. Шмат хто ў нашым грамадстве ўжо, так бы мовіць, “дарос” да таго, каб разумець: галасаваць трэба супраць Лукашэнкі. Але бараніць свае перакананні, пайсці на той жа мітынг у падтрымку Ганчарыка – гэтага пакуль няма. Трэба ж у дажджлівы нядзельны вечар адарвацца ад канапы, ад тэлевізара, ад піва... Не, няхай ідзе нехта іншы! Хто? Ну, хтосьці... Апазіцыя... Палітыкі... БНФ...

Дык вось наша задача – растлумачыць людзям, што бараніць свабоду, будучыню сваіх дзяцей трэба самім. Мы скажам як, мы дапаможам досведам, арганізацыяй. Але калі вырашылі дабівацца нечага – дык дабівайцеся.

“Рабочы”

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

Галіна СУТУЛА (Беларусь)

# НАЦЫЯ БЕЗ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СЬВЯДОМАСЬЦІ?

Добра памятаю савецкія часы, калі мы ўсе, дружна, сэсэсэраўскім натоўпам, як адзін, крочылі ў шчаслівую будучыню. Не разумелі мы, што ў той будучыні шчасьця на ўсіх можа не хапіць, як не хапала яго ўжо тады простым сьмяротным, людзям без сувязяў, блатаў і "бабак".

Я добра памятаю чэргі ў крамах за танным, па рубель семнаццаць, "чарнілам". Яго тады мужчыны куплялі "абоймамі", па тры-пяць бутэлек зараз. Разумная ў той час была палітыка: многіх рабіла шчасьлівымі яшчэ не даходзячы да будучыні. Тыя "шчасьлівыя" сьпіваліся, паміралі раней тэрміну. А што за бяда ад гэтага вялікай дзяржаве? Сьвятлей будзе ў будучыні астатнім. Больш шчасьця на душу насельніцтва прыйдзецца. А што многія душы ледзь трымаліся ў целах, нікому справы ня было.

Гады адышлі за гарызонт, І шчаслівая будучыня, як тая лінія гарызонту, ізноў аддалілася. І ізноў пасыпаліся абяцанкі яе наблізіць і пасьвятліць. А што маем на самой справе?

Чэргі з магазынаў перамясьціліся ў аптэкі. Людзі бяруць у аптэках бутэлечкі лекаў "абоймамі", як некалі бралі таннае "чарніла" ў крамах. Хварэюць маладыя і малыя — тая будучыня, дзеля якой было раздадзена столькі абяцанак. Фізычна чарвівае пакаленьне ўжо ня верыць, што ў нас нешта зьменіцца. Сёньня ня кожны працуючы можа дазволіць сабе аддаць у краме на ежу 6 тысяч рублёў /$4/. У выніку ён вымушаны аддаць іх у аптэцы, бо хваробаў у кожнага не адна-дзьве, а цэлы ахапак.

А нас па-ранейшаму пераконваюць у тым, што беларусы жывуць шчасьліва. І сапраўды. Якое шчасьце, што аўтобусы ў вёскі езьдзяць праз дзень! Якое шчасьце, што летам неяк за грошы ўзяць седзячы білет з Менску, Віцебску ў Глыбокае, а восеньню неяк убіцца ў менскі і віцебскі аўтобусы з Глыбокага! Якое шчасьце, што ў нас вочы лезуць ад цэнаў, якія растуць, як грыбы пасьля дажджу! Якое шчасьце, што заробкі людзей з вышэйшай адукацыяй у Беларусі ў 10-ць разоў меншыя, чым у прыбіральшчыцы без адукацыі на Захадзе! Якое шчасьце, што нават маючы грошы, бяз нэрваў нідзе нічога не дабʼешся! Якое шчасьце адчуваць сябе нікчэмнасьцю побач з такімі "таленавітымі" вэртыкальшчыкамі-ўпраўленцамі! Якое шчасьце жыць і ведаць, што на кожным кроку нас падманвае дзяржава! Якое шчасьце, што за ўсё жыцьцё мы не пабудзем самі сабой, таму што, каб жыць, павінны выконваць адведзеную нам уладамі ролю паўдурняў у беларускай масоўцы! Якое шчасьце, што Беларусь ідзе асаблівым эканамічным шляхам, які нішчыць сваіх грамадзян без вайны! Якое шчасьце, што ў Беларусі памірае больш, чым нараджаецца! Якое шчасьце пры жыцьці адчуваць сябе нябожчыкам, на якога ніхто не зважае, і з халодным спакоем назіраць за тым, што адбываецца!

Чытач, прачытаўшы гэтыя радкі, можа пацiснуць плячыма ад зьдзіўленьня: "Няўжо ўсё гэта, вышэй пералічанае, можна лічыць шчасьцем?" Нельга, але большасьць беларусаў менавіта за такое шчаьце нізка кланяецца "правадырам" і дзякуе, што няма вайны. Нам вайна не патрэбна. Нацыя беларусаў вымірае і без яе.

Сумна, але факт: большасьць беларусаў задавальняецца малым — каб жывот ежай набіць, каб паспаць больш, каб вольны час правесьці ў "кампаніі" з бутэлькай. І навошта думаць пра нейкую там нацыю, пра пэрспэктыву. Пражыў дзень да вечара ў клопатах, хваробах, у поце, бегатні, паеў, пераспаў і досыць добрага... Замест таго, каб чытаць, аналізаваць, думаць, разьвіваць свае здольнасьці, беларусы зарабляюць на кавалак хлеба з каўбасой і на бутэльку. А пасьля чаркі, як вядома, філясофія жыцьця значна спрашчаецца і падаецца ў ружовых колерах.

У большасьці беларусаў адсутнічае нацыянальная самасьвядомасьць і гэта найвялікшая бяда. Вера ў Бога часта падмяняецца паказушнымі паходамі ў царкву. Вера для многіх — даніна модзе, магчымасьць папрасіць ва Ўсявышняга кавалак каўбасы і чарку на будучыню, а не сьвятое пачуцьцё. Заклік "бярыце ад жыцьця ўсё!" для многіх сёньня жыцьцёвы дэвіз. Бяруць ад жыцьця, што можна і нават ня думаюць, што хоць крышачку гэтага "можна" трэба пакінуць іншым. Людзі развучыліся дзяліцца радасьцю, шчасьцем і радавацца чужой радасьці і шчасьцю. Засталіся злосьць і зайздрасьць да тых, хто мае больш, хто разумнейшы, каму шанцуе.

Ня так даўно размаўляла з былой настаўніцай. Жанчына ніколі ня была замужам, ня мела дзяцей, ня зьведала сямейных праблемаў, ніколі ні пра каго, акрамя сябе, не думала і не за каго не хвалявалася. Усё жыцьцё аджыла дзеля сябе. Вучыла дзяцей у школе. Інтэлігентка... А як даведалася пра мае погляды на цяперашняе жыцьцё, пачала айкаць ды войкаць, як над нябожчыкам. Шкадаваць, што "такая умная женщина, а связалась с маразматиками, с больными людьми /маюцца на ўвазе прадстаўнікі апазыцыі — аўтар/. О каком народе ты говоришь? Думай только о себе. Все думают только о себе..."

Цяпер разумееце парасткі якой "нацыянальнай" сьвядомасьці вырошчвала настаўніца ў галовах сваіх вучняў? І мы дзівімся: чаму наша моладзь у большасьці сваёй такая недальнабачная? Чаму такая вяла-падатлівая, як пластылін: хто што хоча, той тое з яе і вылепіць? Нажаль, пэдагогаў у нас шмат, а вось настаўнікаў — адзінкі.

Прыведзены прыклад яскрава даказвае, чаму мы жывём так, як жывём. Таму, што кожны думае толькі пра сябе, а па Біблії трэба "любіць бліжняга свайго, як самога сябе".

І яшчэ. Пачуцьцё зайздрасьці нарадзіла ў многіх беларусаў пачуцьцё жывёльнай помсты. Калі здарылася няшчасьце ў Амэрыцы, загінулі, прапалі бяз вестак людзі, землякі, з якімі давялося гутарыць, ледзь хавалі радасьць і са злосьцю казалі: "А во ім, буржуям, а то зажраліся там. Мы жывём, як жабракі, а яны жыруюць. Няхай паспрабуюць памучыцца, як мы мучаемся ўсё жыцьцё".

Чарвівая сьвядомасьць. Гэта жахліва жадаць бяды і сьмерці тым, хто дабіўся, а значыць, заслужыў годнае жыцьцё і жыве годна, хто ганарыцца сабой, сваім грамадзянствам, сваёй краінай, хто дапамагае іншым краінам жыць лепш, будзіць іх сонную нацыянальную сьвядомасьць. І не віна амэрыканцаў у тым, што беларусы хочуць жыць жабракамі, бязроднай, перакаці-поле нацыяй, якая сёньня — рэспубліка, а заўтра з маўклівай згоды большасьці — расейская губерня. Кашчунства радавацца чужой бядзе, бо бяда бумэрангам вернецца да тых, хто яе жадае іншым.

Сытуацыя ў Беларусі сёньня такая, што 10% грамадзян сапраўды нацыянальна сьвядомых, разумных, ініцыятыўных, энэргічных, якія працуюць за двух-трох, зьняважаныя, асьмяяныя, маральна прыніжаныя. Афіцыйныя ўлады лічаць іх людзьмі ніжэйшага гатунку. Яны залічаны ў разрад бязродных, безыменных. Гэтыя людзі пазбаўлены працы, быццам-бы гарантаванага дзяржавай годнага жыцьця. Яно і зразумела: каб гэтыя 10% былі дапушчаныя да кіраваньня, добрай палове цяперашніх чыноўнікаў ня было-б чаго рабіць. Якраз гэта апошніх і палохае, бо калі няма розуму і жаданьня працаваць, то чым займацца, калі неяк будзе ўпраўляць іншымі?

Чытач можа пацікавіцца: "А як распазнаць гэтых талковых, разумных, сьвядомых? На лбе ж у іх не напісана". Так, не напісана. Трэба пачаць цікавіцца ня толькі сабой, але і людзьмі, якія побач, іх жыцьцём, думкамі, разважаньнямі, паводзінамі. Ня трэба зайздросьціць суседзям і знаёмым, якія ў цяжкім эканамічным становішчы жывуць моцна. Прыглёдзьцеся: той хто змог сваёй працай, розумам зарабіць дабрабыт пры такіх умовах, дорага каштуе. Хто сам наладзіў парадак у сямʼі, той зможа навесьці парадак і ў сямʼі большай.

Трэба больш чытаць, верыць у чалавечыя каштоўнасьці, а не ў ідэялагічныя маразмы.

Тыя, каго вы стараецеся распазнаць, жывуць побач з вамі, але мераюць паўсядзённасьць і думаць зусім іншымі катэгорыямі. Гэта людзі адметныя сваімі паводзінамі, працаздольнасьцю, імкненьнем павесьці за сабой і той "хваробай", якая прымушае хвалявацца і перажываць спачатку за народ, а пасьля за сябе.

===============================



# Як памылялася апазыцыя?..

Што адбылося ў часе прэзыдэнцкіх выбараў 2001 году? Праз месяц пасьля галасаваньня сацыялягічная лябараторыя "НОВАК" вырашыла падсумаваць вынікі адбытае кампаніі, і 11-га кастрычніка зладзіла "круглы стол", запрасіўшы да ўдзелу ў ім знаных беларускіх сацыёлягаў ды палітолягаў. Сёньня Рацыя прапануе вашай увазе фрагмэнты дыскусіі на адну з самых цікавых тэмаў, вынесеных на абмеркаваньне: ці магла апазыцыя выйграць выбары й якія былі ейныя асноўныя памылкі? Падаем меркаваньні палітолягаў Уладзімера Роўды й Валерʼя Карбалевіча.

Перад беларускай апазыцыяй у часе выбараў стаялі 2 асноўныя задачы, якія можна акрэсьліць як "задачу-максымум" і "задачу-мінімум", -- лічыць Уладзімер Роўда. "Задача-максымум" – гэта перамога на выбарах, "задача-мінімум" - паляпшэньне свайго іміджу ў вачах беларускіх грамадзян. Але ні зь першай, ні з другой задачамі беларуская апазыцыя ня справілася, - адзначае палітоляг. Тое, што апазыцыя ня справіцца з задачай-максымум, стала зразумела ўжо за год да выбараў, - нагадвае спадар Роўда.

Да гэтага часу апанэнты Лукашэнкі яшчэ маглі прэтэндаваць на перамогу ў пэрспэктыве: актыўна працаваць з выбарнікамі, перацягваючы на свой бок "аморфную" частку беларускага электарату, а таксама праводзіць масавыя акцыі менавіта ў абарону сацыяльна-эканамічных правоў грамадзян. Зразумеўшы мізэрнасьць сваіх шанцаў на перамогу, апазыцыя перайшла на сцэнар "намэнклятурнае рэвалюцыі". Чаму ён не апраўдаў сябе?

**У.Р.:** -- На мой погляд, мы ўсё ж такі пераацэньваем самастойную ролю намэнклятуры як палітычнае сілы ў Беларусі. Справа ў тым, што беларуская дыктатура мае пэрсаналісцкі характар. Яна робіць вельмі нязначнай, неістотнай аўтаномію структур сыстэмы кіраваньня, і вельмі моцнымі сувязі паміж прэзыдэнтам і чыноўнікамі, якія нясуць перад ім адказнасьць. І гэта прывяло да таго, што мы атрымалі на фінішы.

Любая апазыцыя падзяляецца на сыстэмную, якая гуляе па тых правілах, што існуюць у палітычнай сыстэме, і несыстэмную, што гуляе па сваіх уласных правілах, але гэтаксама змагаецца за ўладу. Паводле Ўладзімера Роўды, беларускую апазыцыю нельга далучыць ні да адной, ні да другой катэгорыяў: прынамсі, сёньня. І гэтая нявызначанасьць таксама наўпрост адбілася на выніках кампаніі.

**У.Р.:** - Калі гаварыць пра сытуацыю да 1996 году, то яна была сыстэмнаю. Пасьля апазыцыя, здаецца, ня стала гуляць па правілах рэжыму, ня стала ўдзельнічаць ані ў мясцовых выбарх, ані ў парлямэнцкіх. Але фактычна яна адмовілася й ад барацьбы за ўладу праз масавыя акцыі: яны былі настолькі неэфэктыўныя, што, хутчэй, можна гаварыць пра "дэманстрацыю прысутнасьці" апазыцыі на вуліцах гарадоў, а не пра рэальную барацьбу за ўладу.

Валер Карбалевіч, са свайго боку, не падзяляе тэзы пра тое, што ў беларускай апазыцыі быў хоць якісьці шанец на перамогу. З самага пачатку выбарчая кампанія была, так бы мовіць, асуджаная на той вынік, які атрымала.

**В.К.:** - Ні апазыцыя, ні хто іншы перамагчы Лукашэнку на гэтых выбарах проста не маглі, незалежна ад таго, які быў бы адзіны кандыдат. І я кажу ня толькі пра тое, што дыктатуру з дапамогаю выбараў не перамагаюць. Дыктатуру можна перамагчы з дапамогаю рэвалюцыі. Я кажу нават пра чыста электаральную перамогу. Самая галоўная прычына - тое, што сацыяльная мадэль, якую стварыў Лукашэнка, ня вычарпала свайго рэсурсу. І яна карыстаецца падтрымкай, прынамсі, паловы насельніцтва. Пакуль гэтая сытуацыя будзе захоўвацца, перамагчы Лукашэнку будзе вельмі складана, і ён будзе заставацца ва ўладзе столькі, колькі захоча.

Валер Карбалевіч, аднак, таксама упэўнены, што на рахунку апазыцыі за гэтую кампанію "назьбіралася" вельмі шмат фатальных памылак.

**В.К.:** - Тут можна гаварыць пра тое, што быў позна абраны "адзіны", што неэфэктыўна працаваў штаб, пра тое, шт абсалютна праваліласяa

"незалежнае назіраньне". Тобок самы буйны правал на фінішы - гэта пройгрыш інфармацыйнае вайны. Апазыцыя не толькі не змагла перамагчы на выбарах, але не змагла й перамагчы у вайне за вынікі выбараў. Усе гэтыя шматлікія назіральнікі, журналісты, што прыехалі ў Беларусь, якія чакалі ўсю ноч з 9-га на 10-га й увесь дзень 10-га, так і вярнуліся, маючы на руках толькі тыя лічбы, якія падаў ЦВК. І пасьля гэтага мы дзівімся, чаму людзі ня выйшлі на вуліцу? За што выходзіць, за што змагацца? Незразумела!

Які стыль палітычных паводзінаў можа цяпер паспрыяць вырашэньню той "задачы-мінімум", што засталася нявырашанаю беларускай апазыцыяй у часе выбараў? Што можа павысіць сёньня вагу палітычных апанэнтаў Аляксандра Лукашэнкі ў беларускім грамадзтве?

**У.Р.:** - На мой погляд, трэба карэнным чынам перагледзець сваю стратэгію й тактыку, свой удзел у палітычнай сыстэме. Калі ўжо вы ўдзельнічалі ў прэзыдэнцкіх выбарах, будзьце добрымі ўдзельнічаць у мясцовых выбарах, парламэнцкіх выбарах і новых прэзыдэнцкіх выбарах. Калі гэтага не адбудзецца, тады ўсё застанецца па-старому.

(паводле Р. Рацыя)

# Беларусь без гарэлкі, як муж без жонкі

Юзік ЛАБЭЦКІ, спажывец гарэлкі

*Мы жывем у краіне сьмелых эксперыментаў. Таму, каб лепей уяўлялася, чым ёсьць гарэлка дзеля Беларусі і беларусаў, прапаную шаноўным чытачам падумаць пра адзін невялікі эксперымент.*

«У воласці Гельнёва сяляне пастанавілі не піць гарэлкі і затрымалі слова, так што манаполька перастала прыносіць даход казне, дзеля чаго акцыз сам закрыў яе ў леташнім годзе». Так паведамляла «Наша Ніва», у нумары 22 за 1910 год.

А зараз уявіце сабе, што сёньня апоўначы адбыўся цуд, ды такі, што нават тым, хто ўчора набраўся як цэбар, нават ім пахмяліцца раніцай не захочацца. Карацей, усе з панядзелка кінулі піць спіртное раптоўна і назаўжды.

Хто будзе радавацца, а хто будзе плакаць? Адказаць на гэтае пытаньне прасцей за ўсё, безумоўна, з дапамогай звычайнае афіцыйнай статыстыкі.

Але статыстыка сьведчыць, што спажываньне гарэлкі грамадзянамі зусім не цалкам залежыць ад аб'ёму яе вытворчасці лікёра-гарэлачнымі заводамі. Дарэчы, з'яўленьне «лікёра-» ў іхнай назве адна з таямніцаў беларускай гісторыі. Да яе мы зьвернемся ў іньшым артыкуле, крыху пазьней.

Зараз жа парадуемся пераканаўчаму статыстычнаму сьведчаньню таго, што эфектыўнасць нашых бровараў ніяк не залежыць ад цыклічнасці чуждай рынкаваму сацыялізму амэрыканскай эканомікі.

Але ж калі ўсе кінуць кіраць, бухаць, квасіць, керасініць, замачываць, адзначаць і г.д., відавочна, што ня соладка прыйдзецца вытворцам спірту ды спіртовых напояў: начальнікам і простым рабочым. Пацерпяць сяляне, каторыя даюць сыравіну на бровары. Шмат чаго прыйдзецца мяняць гандлю, бо згубленая будзе вельмі істотная частка тавараабароту (у агульным аб'ёме прадажаў спажывецкіх тавараў за год спіртное складае дзясятую частку, хлеб — 3,5%, а кніжкі і іньшая друкаваная прадукцыя – адзін адсотак). Давядзецца зьвярнуць бізнэсы ўсім спецыялістам па барацьбе з алкагалізмам і ягоным фундаментальным наступствам — пахмельлем. Ня дзіва, знікне амаль 150 тысячаў кліентаў.

Здавалася б, што пры тым уздыхнуць спакойна ўсе астатнія. Палавіне забойстваў і транспартных здарэньняў не будзе з-за чаго здарацца. Пік жаночых самагубстваў па панядзелках і ў дні пасьля атрыманьня заробку стане сумнай анамаліяй мінуўшчыны. Сярэдняя працягласць жыцьця мужчынаў павялічыцца на сем гадоў. На 12 тысячаў у год паменее траўмаваных на вытворчасці. Ня меньш за дзьве з паловай тысячы грамадзянаў не атруцяцца «рэчывамі з утрыманьнем сьпірту» і застануцца жывымі. Дарэчы, дзесяць гадоў таму гэтая лічба была ўдвая меней. Дзіцячыя дамы, перапоўненыя трыццацьцю тысячамі выхаванцаў, нібыта пасьля вялікай вайны, стануць свабаднейшымі і гэтак далей, і гэтак далей. А сем'і як зажывуць... Грошы зьявяцца...

Стоп, стоп, стоп... Грошы. Колькі тых грошай з'явіцца, палічыць няцяжка, бо вядома, што летась кожны працаздольны грамадзянін краіны, калі перавесьці ўжытае ім спіртное ў гарэлку тыпу «Крышталь», спажыў 100 паўлітровых бутэлек.

Розьнічны кошт спірту і, натуральна, гарэлкі шчыльна зьвязаны з курсам даляру. Возьмем у разьлік – 1 даляр за 1 стандартную пляшку. Атрымліваецца, на ўсю грамаду паўмільярды даляраў, як лёду. Вось яны і патрапяць у нашую эксперыментальную кішэню.

Але, здаецца, як навокал паглядзіш, што волат-народ можа прапіць мільярд даляраў? Падобна, што можа. Дастаткова прааналізаваць сітуацыю з крыху іньшага боку. Дададмо да афіцыйна спажытай кантрабандную самаробную, фальсіфікаваную гарэлку і самогон усіх гатункаў. Атрымліваецца.

Толькі вось, калі з першага паўмільярду дзяржава нешта мае, то з другога не атрымлівае анічога. Тым не меней чорны гарэлачны рынак не зьнікае, кошты на афіцыйна выраблены прадукт досыць апэратыўна рэгулююцца. Не заўсёды каб вельмі ўдала, так што не адразу зразумееш, ці то нябачная рука рынку, ці то сталёвая рука дзяржавы.

Апошняе, сёмае сёлетняе падаражэньне белай гарэлкі склала 5 працэнтаў. З пачатку года гарэлка падаражэла на 31%. Чаму адбываецца так, а не інакш і хто выйграе ад павышэньня коштаў: бюджэт, спажыўцы, гандляры? Пра тое варта было б спытацца ў тых, хто сутыкаецца з праблемамі гэтага досыць спэцыфічнага рынку штодзённа, але яны наўрад ці адкажуць. Тыя, хто кіруе працэсам – таму што працэс вельмі закрыты ад масаў. Тыя, што ўжываюць асноўную масу гатовага прадукту, не ў стане адказаць на большасць магчымых у жыцьці пытаньняў.

Ці дарагая ў нас гарэлка? Павышэньне кошту гарэлкі зьвязанае з ростам плацёжаздольнага попыту грамадзянаў альбо праблемамі дзяржаўнага бюджэту. Вунь у Літве пляшка гарэлкі каштуе не меньш за 5 даляраў, і бюджэт не надта горшы за наш. А можа танная гарэлка дазваляе нам выбіваць клін клінам: запавольвае наступ наркаманіі? Дык за апошнія пятнаццаць гадоў колькасць зарэестраваных наркаманаў узрасла у нас амаль у 40 разоў.

Вядома і тое, што бюджэты буйных населеных пунктаў амаль на тры чвэрці складаюцца са сродкаў, атрыманых у выніку продажу гарэлкі і тытуню. Скарачэньне продажу гарэлкі скарачае прыбыткі мясцовых бюджэтаў. Да таго ж лепшыя некалі падаткаплацельшчыкі – лікёра-гарэлачныя заводы вагаюцца на мяжы рэнтабельнасці дзеля неспрыяльных акцызаў.

А можа прычына ў тым, што вытворчасць гарэлкі ў нашай краіне, як амаль і ўсяго астатняга за савецкім часам, была давезеная да вышэйшай ступені канцэнтрацыі: тры чвэрці гарэлкі выраблялецца на 6 заводах. Прадпрыемствы не зацікаўленыя ў супрацоўніцтве з гандлем, каб рабіць прамоцыю новым брэндам. Наадварот, у іх летась гарэлка давала страты, і сёньня гандаль мае пэўныя праблемы з заводамі. Перыядычна ўзнікае пратэрмінаваная запазычанасьць гандлёвых арганізацыяў перад гарэлачнымі заводамі, аб'ём складзкіх запасаў гарэлкі дасягае да палавіны сярэднямесячнага аб'ёму выпуску прадукцыі, пры тым, што скарачэньне вытворчасці відавочнае?

Так і жывем. Доля алкаголю ў агульным тавараразвароце — вышэй за прадукцыю славутага айчыннага машынабудаваньня – кожны сёмы рубель. А доля акцызу – палову ў адпускным кошце прадпрыемства. Пры тым, паводле статыстыкі, каторая ведае ўсё, нібыта ўжываем па 30 літраў чыстага алкаголю на душу. (Канешне, тут прысутнічае і экспарт.) Але лічба ўражвае, бо норма генэтычнай бясьпекі – не болей за дзевяць літраў. Дзеля чаго п'ем? Дзеля бюджэту? Пра такіх даўнейшыя людзі казалі: «Латамі трасе, а апошняе на гарэлку нясе».

А эксперымент з кіданьнем піць чым закончыцца? Чым звычайна заканчваецца беларускі эканамічны эксперымент – інфляцыяй, бо дзе набярэцца тавару на лішні мільярд і падаткаў з вытворчасці і абароту гарэлкі, як усе кінуць піць. Без эксперыменту таксама не лепей.

# Удар па берасцейскіх «чаўнаках»

Нечаканы ўдар масаваму берасцейскаму бізнесу нанесла польскае міністэрства фінансаў. Як паведамілі афіцыйныя крыніцы ў Польшчы, з 1 студзеня 2002 года суседняя дзяржава плануе зрабіць значна больш жорсткімі правілы ўвозу алкагольнай і тытунёвай вытворчасці. У выніку пад пагрозай апынуліся заробкі тысяч брэстаўчанаў, для якіх штодзённы вояж у Польшчу – адзіная крыніца даходаў.

Цяпер яшчэ праз польскую мяжу можна перавезці дзве пляшкі гарэлкі і пару блокаў цыгарэтаў. Калі рабіць удзень два рэйсы, тлумачаць «чаўнакі», то можна някепска зарабляць – у некалькі разоў больш, чым прапаноўваюць беларускія прадпрыемствы сваім супрацоўнікам. Але з новага года, паводле прапановы польскага міністэрства фінансаў, бясспошлінна можна будзе ўвезці толькі пляшку гарэлкі і адзін пачак цыгарэтаў – і толькі пры ўмове знаходжання на тэрыторыі Польшчы не менш за 24 гадзіны. У такіх умовах «беларускі транзіт» становіцца абсалютна нявыгадным.

У якасці апраўдання сваіх дзеянняў польскія фінансісты тлумачаць, што легальны ўвоз алкагольных і тытунёвых вырабаў шматкроць павялічыўся, а ягоны продаж у краіне апошнія два гады ўвесь час падае. Паколькі беларусы прадаюць прывезеныя гарэлку і цыгарэты «заходняй суседцы» па палавіннай цане, то бюджэт краіны недалічваецца трох мільярдаў злотых (каля 700 мільёнаў даляраў) штогод.

# Штраф за бела-чырвона-белы сьцяг

МАЛАДЭЧНА. У панядзелак гарадзкі суд аштрафаваў гараджаніна Эдуарда Баланчука за выкарыстанне бела-чырвона-белага сьцягу. Э. Баланчук павінен заплаціць 10 мінімальных заработных плат. Акрамя гэтага, суд вырашыў канфіскаваць сцяг. Пасяджэнне суда 8 кастрычніка праводзіў суддзя Аляксандр Лужынскі. Падсудны не згодны з рашэннем суда і заявіў, што на працягу 10 дзён падасць апеляцыю ў абласны суд. Гісторыя пачалася 1 верасня, падчас афіцыйнага адкрыцця ў Маладэчне помніка Агінскаму. Эдуард Баланчук прыйшоў з бела-чырвона-белым сцягам. Работнік міліцыі забраў сцяг і склаў пратакол аб адабранні. Баланчука абвінавацілі ў парушэнні артыкула 1672 Адміністрацыйнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь (АК РБ). Там сказана, што пакаранне наступае за "карыстанне на сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні флагамі, вымпеламі, не зарэгістраванымі ва ўстаноўленым парадку". Э. Баланчук спасылаўся на адказ міністра юстыцыі Генадзя Варанцова №06-10/5478 ад 07.04.2000 г. Там зазначана, што, "згодна з лістом Дзяржаўнага камітэта па архівах і справаводстве РБ, бел-чырвона-белы сцяг зьяўляецца гістарычным сцягам Беларусі. У цяперашні час заканадаўствам не ўрэгулявана пытанне аб парадку і правілах выкарыстання гістарычных сцягаў Беларусі". А значыць, лічыць Э. Баланчук, "пытанне аб рэгістрацыі гістарычнага сьцяга Беларусі ставіць неправамерна, бо ён не можа належаць ніякай юрыдычнай асобе (акрамя дзяржавы) і быць зарэгістраваны. Таму прымяненне артыкула 1672 АК РБ неправамоцнае. Эдуард Баланчук прасіў вярнуць сцяг і спыніць справу. Меркаванне юрыста Дзмітрый Каляда, Ашмяны: – Выкарыстоўваць бела-чырвона-белы сьцяг на адкрыцці помніка Агінскаму было нельга, бо гэта падпадае пад вышэйзгаданы артыкул АК РБ. Наконт канфіскацыі скажу, што ў нас могуць канфіскаваць усё. Цяжка гаварыць, калі не бачыш копію рашэння суда. Але мяркую, што пад канфіскацыю сьцяга можна падвесьці адпаведны артыкул. У канкрэтнай справе многае залежала ад суддзі.

*Юрый КАРПІЦКІ.*

# Да 2050 году насельніцтва Беларусі можа зьменшыцца на 2 мільёны чалавек

**Паводле дэмаграфічных прагнозаў ААН і беларускіх спецыялістаў, да 2050 года насельніцтва Беларусі можа зменшыцца на 2 мільёны чалавек.**

Пра гэта паведаміла намеснік міністра працы Беларусі Алена Колас, выступаючы ў Мінску на семінары па праблемах рэпрадуктыўнага здароўя падлеткаў і моладзі. Па словах Колас, высновы спецыялістаў абумоўлены тым, што, пачынаючы з 1993 года, у Беларусі назіраецца такая з'ява, як дэпапуляцыя; у выніку колькасць насельніцтва краіны зменшылася амаль на 300 тысяч чалавек.

Намеснік міністра зазначыла, што характэрнымі рысамі абвастрэння дэмаграфічнай сітуацыі з'яўляюцца скарачэнне нараджальнасці, рост смяротнасці, старэнне насельніцтва, а таксама скарачэнне працягласці жыцця. У Беларусі за перыяд з 1990 года каэфіцыент нараджальнасці знізіўся на 34,5 працэнты і склаў 9,1 чалавекі на 1-ну тысячу насельніцтва; узровень сьмяротнасці за гэты ж перыяд узрос на 26 працэнтаў. На 2,7 года скарацілася працягласць жыцця.

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**
**Калі ласка, не забывайце пераслаць грашовую ахвяру на выдавецкі фонд газэты... Прыяднаўвайце новых чытачоў і прыхільнікаў!**

*Таямнічы сьвет*

# Хочацца верыць...

**Кожны год у дзень памяці продкаў мы вяртаемся ў думках да памёрлых сваякоў і сяброў і незалежна ад свайго веравызнаньня хочам верыць, што "той сьвет" існуе...**

**Пра яго піша ў сваіх кнігах вядомая ў Эўропе незвычайная жанчына Эльжбета Навальска, рукой якой, па яе сцьвярджэньню, водзяць "адтуль". Апошняя з іх называецца "Быць заўсёды".**

Пасля сьмерці душа (энергія) чалавека пэўны час знаходзіцца ў памяшканьні, дзе наступіла сьмерць. Прысутнічае яна і на пахаваньні. Суправаджаюць яе энергіі, якія прыйшлі па яе ў гэты важны для яе момант. Гэта сябры сям'і ці знаёмыя, якія былі зьвязаны з гэтым чалавекам у жыцьці вялікімі пачуцьцямі.

Гэта найцяжэйшыя хвіліны для энергіі, якая толькі што вызвалілася ад свайго фізічнага цела. Яна павінна "ўсвядоміць" сябе, што матэрыяльнае жыцьцё ўжо скончылася і звароту да яго больш няма.

У момант пахавання адны душы спакойныя, іншыя круцяцца навокал, як бы не ведаючы, што з сабою рабіць. А жывыя абцяжарваюць іх знаходжаньне ў іншым вымярэньні. Роспач, істэрыкі, плач, галашэньне трымаюць душу пры зямлі.

Крыху інакш адбываецца пераход на "той сьвет" энергіяў вышэйшай вібрацыі -- людзей духоўных, інтэлектуальных, добрых, высокамаральных. Духоўныя апекуны спрашчаюць іх хуткі зыход з "гэтага сьвету", забіраюць душу, каб яна не глядзела на тое, што адбываецца з яе целам, на роспач блізкіх.

Працэс прызвычаеньня душы да існаваньня ў іншым вымярэньні працягваецца некалькі зямных гадоў. Як доўга -- гэта залежыць ад таго, якім быў чалавек у жыцьці. Чым лепшы, тым хутчэй яго душа прыстасуецца да новага вымярэньня.

Некалькі, а то і дзесяткі гадоў пасьля сьмерці энергія, занятая ўласнымі метамарфозамі, ня можа апякаць сваю сям'ю. Яна становіцца зусім іншай, чым мы яе ведалі. З таго вымярэньня нашы зямныя праблемы выглядаюць зусім інакш, ацэньваюцца іншай сістэмай вартасьцяў. Тое, што для нас важна, там неістотна. Чакаць дапамогі "адтуль" ня мае сэнсу. Трэба разлічваць толькі на сябе.

Вельмі важна запальваць **сьвечкі** пры труне. Кветкі маюць значэнне толькі для нас. Полымя ж сьвечкі -- сувязь паміж сьветамі жывых і памерлых. Пры ўмове, што мы запальваем сьвечкі з пачуцьцём любові і сардэчнасьці да памерлага. Бо любоў -- гэта яшчэ адзін сувязнік паміж гэтымі двума сьветамі.

Калі нават мы праз шмат гадоў запальваем сьвечку на магіле блізкага чалавека, яго энергія зьяўляецца там. "Становіцца" звычайна побач з помнікам і знаходзіцца ля гэтага сьвятла, пакуль яно не згасьне. Яна бачыць нас, ведае тое, што мы пра яе думаем. Замест таго, каб плакаць, варта ў думках дзякаваць за цудоўна пражытыя разам дні, за тое, што зрабіла для нас, за тое, што проста была.

Душа памерлага не вымагае ад нас вернасьці. Яна хоча, каб мы былі шчасьлівымі. Ёй дастаткова, што мы яе ўспамінаем дабром.

Дзень памяці памерлых -- дзень спатканьня ў адным месцы двух светаў.

Іван СІНЯЧОЎСКІ

---

# Сёстры Філістовіча

**Сёлета сябры патрыятычнае арганізацыі "Край" гасьцявалі ў сёстраў беларускага патрыёты Янкі Філістовіча — Серафімы, Веры і Ганны, — якія жывуць на Украіне і ў Польшчы. Яшчэ адна сястра жыве ў Даніі. Яны распавядалі пра свае лёсы, пра бацькоў і, вядома ж, пра брата Янку.**

Вера была найстарэйшай зь дзяцей Андрэя й Зоф'і Філістовічаў. Яна нарадзілася ў 1924 г. у вёсцы Паняцічы. У 1942-м выйшла замуж, але муж праз два гады загінуў ва Ўсходняй Прусіі. Тады ж разлучылася зь сям'ёй, якая выехала ў Польшчу. У 1945-м Вера выйшла замуж ізноў, за савецкага афіцэра, зьмяніла прозьвішча, жыла ў Вільні, а пасьля ў Мёрах. Працавала ў гарвыканкаме старэйшым бухгальтарам.

"Аднойчы прыехаў дзядзька Іван Пехур і кажа: "Верка, прыедзь да нас, прыйшоў ліст ад бацькоў з Польшчы", — згадвае Вера Андрэеўна. — Я на ровары прыехала. Але замест ліста ўбачыла Янку... Спачатку ён сказаў, што адбывае у Сібіры пакараньне й цяпер вярнуўся. Толькі на другі дзень прызнаўся, што прыбыў з-за мяжы: "Мая Радзіма — Беларусь... Я прыйшоў дапамагчы свайму народу".

Пасьля гэтага яна бачыла яго толькі аднойчы, калі ён ішоў на чыгуначную станцыю й здалёк памахаў ёй рукой... Чэкісты сачылі за ейнай хатай, пасьля арыштавалі. Веру выратаваў муж, які зацята бараніў жонку і нават кінуў на стол сакратару райкаму партыйны білет.

Яны выехалі ва Ўкраіну. Там Вера вучылася, працавала, пасьля разводу з мужам адна гадавала сваіх дзяцей. Пры канцы 50-х бацькі ўгаварылі яе прыехаць зь дзецьмі ў Польшчу й там застацца, але савецкая дзяржбясьпека не дазваляла Веры наведваць Польшчу з усімі дзецьмі.

Яна заўсёды спрыяла беларусам: кагосьці ўладкоўвала на працу, камусьці дапамагала здабываць асьвету. Жывучы на чужыне, яна хацела хоць нечым дапамагчы свайму народу, за шчасьце й волю якога аддаў жыцьцё ейны брат.

Серафіма Філістовіч шмат расказвала пра сям'ю, пра бацькоў. Пра тое, як ейны бацька цудам застаўся жывы ў чэрвені 1941-га, калі энкавэдысты расстрэльвалі вязьняў Вялейскай турмы, якія пакуты давялося перажыць іхнай сям'і падчас вайны й выезду ў Польшчу. У адным мястэчку на захадзе Польшчы, ужо пасьля капітуляцыі Нямеччыны, Серафіма бачыла Янку. Ён быў сярод моладзі, якую савецкія вайскоўцы сагналі разьбіраць руіны вакзалу. Тады загаварыць яны пабаяліся, а пасьля сустрэцца ім не давялося...

Органы дзяржбясьпекі ведалі, дзе жыве сям'я Філістовічаў. Таму, калі Янку шукалі ў Беларусі, за хатай бацькоў увесь час сачылі агенты.

Сёстры доўга шукалі зьвестак пра Янку, пісалі ў Польскі Чырвоны Крыж. У красавіку 1959-га ім адказалі, што ён памёр на тэрыторыі СССР 19 сакавіка 1954 г. А ў лютым 1992-га Серафіма атрымала з Управы юстыцыі Менгарвыканкаму дакумэнт, у якім паведамляецца, што Вайсковы трыбунал БВА 4—5 лістапада 1953 г. прысудзіў Янку да расстрэлу і што "прысуд выкананы".

Але сёстры Янкі ня пэўныя, што ён быў расстраляны. Яны прыводзяць шэраг довадаў, яны вераць, хочуць верыць, што Янка мог выжыць, што ён яшчэ жыве, што ён вернецца...

Брат Янкі, Аляксандар, які нядаўна памёр у Польшчы, выгадаваў двух сыноў — Адама й Войтка. Войтак на выгляд вельмі падобны да свайго дзядзькі...

Поўныя тэксты інтэрвію зь сёстрамі Янкі Філістовіча, а таксама з тымі, хто дапамагаў яму ў нелегальнай дзейнасьці ў Беларусі, фатаздымкі зь сямейнага архіву Філістовічаў ды іншае будзе зьмешчана ў кнізе, якая рыхтуецца да друку ў выдавецтве "Голас Краю".

**Пятро Казак (Н.Н.)**

Янка Філістовіч нарадзіўся 14 студзеня 1926 г. у вёсцы Паняцічы (цяпер Вялейскі раён). У гады нямецкай акупацыі вучыўся і працаваў на Вялейшчыне; увосень 1943 г. быў мабілізаваны ў 13-ы Беларускі батальён, служыў у Вялейцы і Менску. Па вайне жыў у перасыльных лягерах Нямеччыны, з 1946 г. — у Францыі. У лютым 1948-га паступіў на гістарычны факультэт Сарбоны. Адзін з заснавальнікаў Беларускага Нацыянальнага Аб'яднаньня Моладзі ў Францыі, рэдактар рукапіснага часопісу "Моладзь". У 1951 г. навёў кантакты з амэрыканскімі спэцслужбамі, пераехаў у Бэльгію, у Лювэн, дзе працягнуў навучаньне на гістарычным факультэце. Пасьля перабраўся пад Мюнхен, дзе прайшоў каротка-тэрміновыя выведчыя курсы, рыхтуючыся працягнуць змаганьне на тэрыторыі Беларусі.

9 верасьня 1951 г. Філістовіч дэсантаваўся з парашутам каля Маладэчна і ўзначаліў партызанскую групу зь пяці чалавек, якая дзейнічала на тэрыторыі Ільянскага раёну. Увосень 1952 г. іх пабрала савецкая "бясьпека". Філістовіча расстралялі. Усяго па справе Філістовіча былі асуджаныя 17 чалавек.

<><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><>

# Беларускае ў Арэгоне - Oregon

**Шукаць беларусаў у Арэгоне я пачаў задоўга да таго, як паехаў туды на стаж у Юджынскі ўнівэрсытэт. Я шукаў іх у Інтэрнэце, па кніжках і праз асабістыя кантакты, аднак вынікі былі несуцяшальныя. У кнізе Вітаўта Кіпеля "Беларусы ў ЗША" (1990) пішацца, што беларусаў у Арэгоне аж цэлая тысяча, але я сустрэў толькі трох.**

Першы сам апынуўся там на тыдзень раней за мяне. Гэты хлопчык зь Менску эміграваў разам з бацькамі. Убачыліся мы ў сталіцы штату, Сэйлеме, у школе з экалягічным ухілам, куды я прыехаў на кампутарны сэмінар для мясцовых настаўнікаў. Даведаўшыся, што я зь Беларусі, адміністрацыя школы паказала мне новага вучня. Пагутарылі мы зь ім з задавальненьнем, бо ўжо трохі пакутавалі на настальгію. Зрэшты, якая настальгія — і ў Арэгоне, і ў Віцебску навокал гучыць чужая мова, псыхалягічна ўсё адно й тое самае! Другі беларус — хлопец, які стажаваўся на хімічным факультэце ўнівэрсытэту пасьля фізфаку БДУ, — па-беларуску ня ўмеў. Затое ведаў пра фільм "Брат-2": "Харошы фільм. Там паказаны такі хлопец... Вось ён душой чысты, але акрамя як забіваць — нічога ня ўмее. Не навучылі". На пытаньне, як такое магчыма, ён адказаў: "Ну вось такая яна, нашая расейская рэчаіснасьць". Трэцяя беларуска, Надзея Скрабіна, студэнтка Менскага лінгвістычнага ўнівэрсытэту, прыехала сюды па праграме абмену, як і я. Мы выпадкова сустрэліся на вечарыне ў аднаго амэрыканца, кулінарную частку якой забясьпечыла менавіта беларуска. На стале была і верашчака, і камы, і дранікі са сьметанай.

Калі вуснае беларускае слова на вуліцах Арэгону не гучыць, варта паспрабаваць знайсьці друкаванае. Я выправіўся ва ўнівэрсытэцкую бібліятэку. Поруч з належнай кваліфікацыяй пэрсаналу, дзьве акалічнасьці робяць працу ў тамтэйшай бібліятэцы асабліва прыемнай і прадуктыўнай: высокая ступень кампутарызацыі і давер да чытачоў — тут нават дазваляецца без пасьведчаньня ўваходзіць у кнігасховішчы, дзе на паліцах побач з сучаснымі кнігамі стаяць выданьні мінулага і пазамінулага стагодзьдзяў. Зрэшты, у пераплёце кожнай кнігі схаваная магнітная палоска, і пры спробе цішком скрасьці ўпадабанае выданьне кантрольная сыстэма на выхадзе закрычыць дурным голасам.

Па выніках кампутарнага пошуку, ключавое слова "Беларусь" зьмяшчалі анатацыі 464 кніг (слова "Расея" — 17193, "Польшча" — 2672, "Украіна" — 1371, "Літва" — 288, "Латвія" — 254). Аднак кніг, якія так ці інакш датычаць Беларусі, тут ня менш за тысячу. Сярод рарытэтаў — "Словарь белорусскагo наречія" І.Насовіча (1870) і "Белорусскія песні, съ подробными объясненіями ихъ творчества и языка, съ очерками народнагo обряда, обычая и всего быта" П.Бяссонава (1871)...

Мастацкая літаратура — творы Чачота, клясыкаў, Глебкі, Панчанкі, Сіпакова, Лойкі, Караткевіча, Брыля, Гілевіча, Бур'яна — прысутнічае тут часткова ў перакладах на ангельскую або расейскую мовы. Асабліва шырока прэзэнтаваная творчасьць Васіля Быкава. Дзіўна, што ў бібліятэцы ёсьць крытычныя нарысы, але цалкам адсутнічаюць творы Янкі Купалы. Таксама, як і выданьні Беларускага інстытуту навукі і мастацтва (Нью-Ёрк).

Беларуская гістарычная веда прадстаўленая "Энцыкляпэдыяй гісторыі Беларусі" (1993), энцыкляпэдыяй "Археалёгія і нумізматыка Беларусі" (1993), кнігамі беларускіх гісторыкаў Ігнатовіча, Грынблата, Цітова, Палуяна, Улашчыка, Кузьняцова, Зьвяругі, Шыбекі, Дзярновіча, Лакоткі, Жучкевіча, зборнікам твораў і дакумэнтаў Кастуся Каліноўскага "За нашую вольнасьць" (1999), замежнымі выданьнямі па беларускай гісторыі — падшыўкамі часопісу *The Journal of Byelorussian Studies* (Лёндан, Ангельска—беларускае таварыства, 1965—88), кнігай *Belarus: at a Crossroads in History* Запрудніка (Болдэр, 1993), *Belarus: from Soviet Rule to Nuclear Catastrophe* Марплза (Нью-Ёрк, 1996)...

Словам, нягледзячы на тое, што амэрыканскім бібліятэкам нявыгадна цяпер купляць беларускія кнігі праз пасярэдніцтва кнігагандлёвых арганізацыяў, можна лічыць, што беларускі кнігазбор нават правінцыйных амэрыканскіх бібліятэкаў задавальняе патрэбы як студэнтаў, так і нашае дыяспары.

**Уладзімер Слабін**, Віцебск (Н.Н.)

---



# У НЯМЕЧЧЫНЕ ВЫЙШАЎ ДАВЕДНІК ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Стваральнікі даведніка, нямецкія прафэсары-гісторыкі Дытрых Байраў і Райнэр Ліндэман лічаць, што кніга стане нечаканасьцю для многіх эўрапейцаў, якія ўсё яшчэ успрымаюць Беларусь пераважна як пэрыфэрыю Расеі.

Нягледзячы на тое, што кніга літаральна днямі трапіла ў продаж і, дарэчы, каштуе 152 дойчмаркі альбо каля 70 даляраў, яна ня мае рэклямна-інфармацыйнага недахопу. Пару тыдняў таму ў часе міжнароднага кніжнага кірмашу ў Франкфурце-на-Майне да "Даведніка па гісторыі Беларусі" ўжо праявілі цікавасьць вядомыя нямецкія палітыкі, фахоўцы, прафэсура…Падобны інтарэс, на першы погляд, досыць нечаканы, улічваючы тую акалічнасьць, што большасьць эўрапейцаў не ўспрымаюць Беларусь як самастойную дзяржаву, а разглядаюць яе як частку Расеі. Аднак якасьць выданьня (выдавецтва Vandenhoek & Ruprecht мае ў навуковых колах сур'ёзную рэпутацыю), кола аўтараў – пра гісторыю Беларусі пішуць беларускія, нямецкія, швайцарскія, польскія, ангельскія і амерыканскія гісторыкі – прыцягваюць немалую ўвагу да кнігі. Паводле стваральнікаў "Даведніка", нямецкіх прафэсараў Райнэра Ліндэра'і і Дытрыха Байраў, падобная ўвага тлумачыцца і іншымі прычынамі. Напрыклад, геапалітычнымі.

(Ліндэр:) "У зьвязку з тым, што ЭЗ пашыраецца і будзе мець памежную тэрыторыю з Беларусьсю, у Захада пакрысе зьяўляецца цікавасьць да новага суседа і новыга партнэра. Мы не памылімся, калі скажам, што раней многія ў Нямеччыне успрымалі Беларусь як пэрыфэрыю былых імпэрыяў… Гісторыя беларускай дзяржавы, перадумовы для нацыянальнага разьвіцьця – ўсе гэта амаль не вядома, як ў Заходняй, так і ва Ўсходняй Эўропе".

Як лічаць стваральнікі зборніка, "Даведнік" павінен адыграць сваю важную ролю ў тым ліку і для беларускай чытацкай аўдыторыі. Гэта першая спроба пагледзець на беларускую гісторыю не праз прызму адпаведнай ідэалёгіі. Кніга, якая ахоплівае значны адрэзак часу ад распаду Кіеўскай Русі да апошніх прэзыдэнцкіх выбараў, адрозьніваецца якасна іншым навуковым падыходам. Гісторыя, лічаць аўтары, гэта сынтэтычная сацыялягічная навука. У "Даведніку" расказваецца, напрыклад, пра станаўленьне розных сацыяльных групаў у Беларусі – сялянаў, элітаў, магнатаў, таксама пра этнас, пра нацыянальнае разьвіцьцё, пра гісторыю канфэсіяў і мовы. Апошняя частка даведніка прысьвечана малараспрацаванаму ў гістарычнай беларускай навуцы пытаньню – гісторыі нацыянальных катастрофаў, у тым ліку пытаньням зьнічшэньня беларускай дзяржаўнасьці, а таксама беларускага насельніцтва ў часе першай і другой сусьветнай войнаў, таталітарызму, стратам насельніцтва ў выніку чарнобыльскай аварыі.

%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%

## Што беларусу не прэстыжна, тое немцу - ганарова

**Гольгер Кнауф - 28-гадовы карэнны немец, студэнт універсітэту ў заходненямецкім горадзе Белефельдзе. Традыцыйна, як і кожны прадстаўнік ягонай нацыі захапляецца сасіскамі ды півам. Што, здавалася б, можа даць падставы лічыць яго незвычайным, у пэўным сэнсе, дзіўным немцам? У прынцыпе, нічога. Акрамя таго, што Гольгер зайздросна гаворыць па-беларуску, а, літаральна, два тыдні таму нямецкае выдавецтва "Райзэ ноу-гау" выпусціла з друку трохтысячным накладам першы ў гісторыі Нямеччыны нямецка-беларускі размоўнік для шырокага карыстання, падрыхтаваны менавіта Гольгерам. І, навошта маладому немцу ў Нямеччыне беларуская мова?..**

- Гэта надзвычай карысны размоўнік. На Беларусь едуць шмат немцаў. У большасці сваёй гэта людзі, якія вязуць сюды гуманітарную дапамогу. І яны не толькі прывозяць груз і адразу назад. За гэтыя 10 год, якія дзейнічае гуманітарная місія, завязалася ўжо шмат асабістых кантактаў немцаў з беларусамі. І, нават, нягледзячы на тое, што ў Беларусі сапраўды няшмат людзей гаворыць па-беларуску, ведаць беларускую мову для немца карысна. З другога боку, неабходна ведаць беларускую мову хаця б дзеля таго, каб разабрацца ў горадзе, дзе, нягледзячы на русіфікацыю яшчэ засталося шмат надпісаў і шыльдаў па-беларуску.

**- Атрымоўваецца, нават у Нямеччыне можна зарабіць капітал, выдаючы кнігу па-беларуску?**

- Зарабіць грошы - гэта, так бы мовіць, іншае пытанне. За кожны прададзены паасобнік размоўніка я атрымліваю 50 пфенінгаў (кошт размоўніка ў нямецкіх крамах - 15 дойчмарак. Тут галоўнае, што кожны чалавек, які едзе на Беларусь, можа дазволіць сабе ўзяць у дарогу кнігу і вывучыць элементарныя беларускія выказванні, якія, спадзяюся, дапамогуць яму ў Беларусі.

**- Твае б словы ды Богу ў вушы... У Беларусі некалькі год таму вучыўся студэнт з Японіі, які вывучаў беларускую мову. Дык вось на адной з дэманстрацыяў ён быў жорстка збіты міліцыяй. Ты не думаеш, што немцаў, якія прыедуць сюды і будуць гаварыць па-беларуску, можа чакаць тое самае?**

- Пакуль што я гэтага не баюся. Хаця ведаю, што людзей на дэманстрацыях тут сапраўды зьбіваюць.

**- А цябе не здзівіла, што, напрыклад, у Гродне ўжо практычна не засталося ніводнай беларускамоўнай школы?**

- Так!? Я пра гэта, шчыра скажу, не ведаў. Я чуў, што за апошнія пяць-сем гадоў колькасць беларускамоўных школаў у краіне значна знізілася. Шкада, і, нават, не столькі шкада, колькі крыўдна.

**- Як бы ты акрэсліў месца беларускай мовы сярод іншых моваў у свеце? Гэта не павінен быць адказ навукоўца, а словы чалавека, які ў свой час вырашыў вывучыць гэтую мову.**

- Я паважаю ўсе маленькія мовы і ўсе маленькія дыялекты. Упэўнены, што ўсе яны павінны мець права на існаванне. Беларускія словы шалёна прыгожа гучаць. Больш таго, гэта мова, якая мае багатую літаратуру. З іншага боку, кожны год у свеце якая-небудзь мова знікае. Беларуская мова, я магу зрабіць такую выснову, у Беларусі не мае прэстыжу. Людзі прыязджаюць з вёскі ў горад і імкнуцца хутчэй пачаць гаварыць па-руску. Я неверагодна ганаруся, што, жывучы ў Нямеччыне, магу нешта зрабіць дзеля захавання беларускай мовы. Хаця б трошкі.

**- У навуковых асяродках у Нямеччыне існуе ўпэўненасць, што беларускай мове пагражае зьнікненне? Я правільна зразумеў?**

- Такая перспектыва ёсць. Пахадзі па горадзе, колькі разоў ты пачуеш беларускія словы? З іншага боку, мне вельмі не падабаецца, як тут пагарджаюць вясковай мовай ці трасянкай. Чаму трэба размаўляць толькі на нарматыўнай, літаратурнай беларускай мове? Трэба паважаць мову вясковых людзей. Гэта жывая мова, гэта мова, на якой гавораць.

**- Ты, напэўна, ведаеш, што Васіль Быкаў знаходзіцца ў Нямеччыне ў вымушанай эміграцыі?**

- Так, сёлета я, нават, быў на чытанні ў Быкава ў Гановеры. Паразмаўляць, праўда, не давялося. На гэтых чытаннях быў нейкі рэдактар рускамоўнай газеты "Руская Германія". Відаць, нейкі выхадзец з былога СССР. Ён досыць груба наязджаў на Быкава. Маўляў, як так можа быць, што Вы сёння выступаеце за дэмакратыю, а за савецкім часам атрымоўвалі вышэйшыя дзяржаўныя прэміі? Быкаў проста адмовіўся адказваць на гэткае пытанне.

**- Ці маеш ты ў Нямеччыне асяродак, дзе можаш паразмаўляць па-беларуску?**

- Не, на жаль, не. У маўленні я практыкуюся, чытаючы кнігі і слухаючы касеты. Аднак, гавару я пра гэтыя кнігі і касеты са сваімі сябрамі па-нямецку альбо па-руску.

**- А адкуль такая прыхільнасць да беларускай мовы?**

- У 1995-1996 годзе я навучаўся ў Менску, і вывучаў рускую мову. Некалькі маіх беларускіх сяброў гаварылі па-беларуску. Да таго ж, самыя цікавыя газеты ў Беларусі выходзяць толькі на беларускай мове. Пасля, як вярнуўся ў Нямеччыну, я пачаў шукаць хаця б нейкія матэрыялы па вывучэнню беларускай мовы, і зразумеў, што ў нас нічога на гэты конт няма. Потым сустрэў цікавае выдавецтва "Райзэ ноу-гау", якое выдае слоўнікі шматлікіх моваў, у тым ліку і моваў былой савецкай прасторы: армянскай, эстонскай, грузінскай, латышскай, украінскай, узбекскай і гэтак далей. А беларускага размоўніка не было. І я прапанаваў ім свае паслугі па выданні нямецка-беларускага размоўніка.

**- Гэта значыць, што ты стаў першым у гісторыі Нямеччыны аўтарам беларускай кнігі?**

- Так. Безумоўна, не выключана, што калісьці ў якім-небудзь нямецкім універсітэце і маглі выдаваць падобныя матэрыялы. Але для шырокага карыстання - упершыню. У мяне, дарэчы, у планах - папрацаваць над стварэннем падручніка для дапамогі тым, хто мае жаданне навучыцца чытаць па-беларуску. Многія немцы хочуць чытаць беларускамоўную прэсу. Тым больш Internet дае такую магчымасць.

**Павал Мажэйка – (Паг.)**

<><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><><>

## Абрабавалі «песьняра»

У Мінску абрабаваны вядомы сьпявак, саліст ансамбля «Песьняры» Леанід Барткевіч. Як паведамляюць абрабаваньне ўчынена сярод белага дня, у самым цэнтры беларускай сталіцы. Прыкладна а 13-ай гадзіне трох невядомых хлопцаў спынілі спадара Барткевіча на праспекце Машэрава і накінуліся на яго. Рабаўнікі завалодалі 3,5 тысячамі долараў, 300 тысячам беларускіх рублёў, двума залатымі пярсцёнкамі, залатым ланцужком і сотавым тэлефонам…

---

# Баўгары перамаглі беларусаў

8 кастрычніка ў Нью-Ёрку, у штаб-кватэры ААН адбыліся выбары пяці новых непастаянных чальцоў Рады бясьпекі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый на пэрыяд 2002-2003-га гадоў. У барацьбе за месца, прызначанае для краінаў Усходняй Эўропы, на якое сёлета прэтэндавалі Беларусь і Баўгарыя, перамагла Баўгарыя.

Рада бясьпекі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый складаецца зь пяці пастаянных краінаў-чальцоў з правам вэта й дзесяці дзяржаваў, якія выбіраюцца на двухгадовы тэрмін ад розных рэгіёнаў сьвету. Сталымі чальцамі Рады бясьпекі ААН зьяўляюцца Расея, Злучаныя Штаты Амэрыкі, Кітай, Вялікабрытанія й Францыя. Штогод абіраецца па адной краіне ад кожнага зь пяці рэгіёнаў - азіяцкага, афрыканскага, лаціна-амэрыканскага, заходне-эўрапейскага й усходне-эўрапейскага. *На адно месца ад ўсходне-эўрапейскіх краінаў прэтэндавалі Беларусь і Баўгарыя. Дамініканская Рэспубліка й Мэксыка вылучылі свае кандыдатуры ад групы лаціна-амэрыканскіх краінаў, на тры месцы ад краінаў Азіі ды Афрыкі прэтэндавалі Сірыя, Гвінея й Камэрун. Па выніках галасаваньня новымі непастаяннымі чальцамі Рады бясьпекі сталі Баўгарыя, Гвінея, Камэрун, Мэксыка й Сірыя.*

Нагадаем: цягам двух мінулых гадоў усходне-эўрапейскі рэгіён ў Радзе бясьпекі ААН рэпрэзэнтавала Ўкраіна. Сёлета на гэтае месца прэтэндавалі Беларусь і Баўгарыя. 8 кастрычніка ўжо ў першым туры перамагла Баўгарыя, яна набрала неабходныя дзьве трацiны галасоў.

Паводле вынікаў чарговых выбараў чальцоў Рады бясьпекі ААН, якія адбыліся 8 кастрычніка, Сірыя - краіна, якую ЗША ўнеслі ў спіс дзяржаваў-памагатых тэрарызму, будзе прадстаўляць азіяцкі рэгіён цягам бліжэйшых двух гадоў. Злучаныя Штаты не выступалі супраць Дамаску, у адваротным выпадку кандыдатура Сірыі, вылучаная на безальтэрнатыўнай аснове, хутчэй за ўсё, была б адпрэчаная.

---

## Беларускія міратворцы

**Упершыню ў 'дэпартамент аперацый ААН па падтрымцы міру залічаны прадстаўнікі Беларусі.**

У Беларусі быў аб'яўлены конкурс, у якім прынялі ўдзел 32 чалавекі. Акрамя добрай фізічнай падрыхтоўкі, умення добра вадзіць машыну, ад наваббранцаў патрабавалася бездакорнае валоданне англійскай мовай. Усе экзамены вытрымалі толькі 9 чалавек. Пяцёра з іх -- прадстаўнікі Дзяржкамітэта пагранвойск.

Беларусы пакуль не будуць непасрэдна прымаць удзел у міратворчых місіях ААН, якія, дарэчы, носяць толькі грамадзянскі характар. Не выключна, што ў хуткім часе нашы землякі ў якасці міратворцаў трапяць у Косава, Боснію ці Герцагавіну.

==========================================

## Амэрыканкі ад'язджаюць, а сетка лідарак застаецца

**Пяць дзён - з суботы да серады - доўжыўся семінар і сустрэчы з грамадскасцю горада трэнераў жаночай арганізацыі Heartland International з Чыкага.**

Трэнеры з Чыкага правялі для групы жанчын з Гродна і Брэста трэнінг-семінар "Жаночае лідарства". Каардынатарка праекту жаночага лідэрства ў Беларусі Барбара Элан расказвае:

-- 3 лістапада 2000 года мы меркавалі: якая работа з жанчынамі неабходна ў Беларусі? Вырашылі, што найперш патрэбныя супрацоўніцтва і камунікацыі, гэта значыць - сетка жаночых арганізацыяў. Улетку 10 жанчын з Беларусі прыехалі ў Чыкага на трэнінг "Стратэгічнае планаванне". Нашай мэтай было павялічыць ролю жанчын у сферы прыняцця рашэнняў на ўсіх узроўнях. Мы хацелі падрыхтаваць упэўненых у сабе жанчын -- першапраходцаў, якія могуць прымаць адказныя рашэнні. Ад гэтага будзе карысць і для мужчынаў...

Гарадзенская ж група на чале з Валянцінай Суворынай Святланай Руднік, Маяй Чырковай са свайго боку, прапанавала гасьцям вельмі цёплы прыём: былі ўтульныя хатнія вячэры, выступленні хору "Бацькаўшчына", экскурсіі ды іншае.

==========================================

## *Гадавы Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі.*

13-га кастрычніка 2001 г. адбыўся Зьезд ЗБВБ у залі пры Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане.

Старшыня Ўправы ЗБВБ Сп-ня Л. Міхалюк адчыніла Зьезд і папрасіла айца А. Надсона пачаць праграму малітваю.

Мандатная камісія ў складзе Сп. Сп. С. Будкевіча, М. Баяроўскага і П. Шаўцова пасьля праверкі картатэкі сяброў Згуртаваньня і колькасьці прысутных упаўнаважаных да галасаваньня— пастанавіла, што кворум сяброў адпаведны і, што Зьезд лічыцца важным.

У Прэзыдыюм Зьезду былі абраныя: на старшыню — Сп. М. Швэдзюк і на сакратароў — Сп. Сп. С. Пяткевіч і Я. Лабацэвіч.

Справаздачу за мінулы год працы Галоўнай Управы здала Сп-ня Л. Міхалюк, а справаздачы пра стан маёмасьці ЗБВБ здалі Сп. Весяловіч з Брадфорду і Сп. Мартынчык з Лёндану. Дыскусіі над справаздачамі працягваліся даволі доўга, пасьля чаго Сп. М. Баяроўскі прапанаваў прызнаць абсалютарыюм з падзякай ўступаючай Управе. Гэтую прапанову Зьезд прыняў аднагалосна.

У новую Ўправу ЗБВБ надалей аднагалосна былі выбраныя — на старшыню Ўправы Сп-ня Л. Міхалюк, на заступніка Сп. П. Шаўцоў і на сакратара і скарбніка Сп. С. Пяткевіч. У сябры Ўправы ўвайшлі: Сп-ня Сенько і Сп-ня Дзейко, а ў Наглядную Раду выбраныя Сп. М. Швэдзюк, Сп. М. Баяроўскі і Сп. С. Будкевіч.

Пасьля адсьпяваньня беларускага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", Сп-ня Л. Міхалюк закрыла гадавы Зьезд ЗБВБ у Лёндане.

Сяброўкі ЗБВБ, як заўсёды, прыгатавалі багаты пачастунак і пры чарцы віна хутка прайшоў час у сяброўскіх гутарках і успамінах, але час для дэлегатаў разьязджацца па розных мясьцох Англіі наставаў няўмольна.

*С. Будкевіч*

## Доўгая дарога да Храма

**"Можна супакоіцца. Цяпер мы штодня будзем прыходзіць да Цябе ў нашу царкву", - бы некаму блізкаму і роднаму сказала Ніна Лебядок, калі два будаўнікі скончылі кідаць цэмент у шчыліну падмурка. У мінулую суботу ў пасёлку Пагранічны, што на Бераставіччыне, асвячалі месца, дзе ў хуткім часе паўстане Беларускі Храм Ефрасінні Полацкай - першы ў краіне царкоўны комплекс Беларускай Аўтакефальнай Народнай Праваслаўнай Царквы (БАНПЦ). На вачах у жыхаркі Пагранічнага, якая аддала пад пабудову царквы добры кавалак свайго гарода, заблішчэлі слёзы радасці, якраз у той момант, калі сонца ўпершыню разбіла гэты, здавалася, страчаны, у сэнсе надвор'я, дзень...**

Асвячэннем месца будучага царкоўнага комплексу ў гэтым прымежным мястэчку Гарадзенскай вобласці скончылася, можна спадзявацца, больш чым двухгадовае змаганне з "вертыкаллю" і прадстаўнікамі Маскоўскага патрыярхату, айца Яна Спасюка - святара мясцовага прыходу БАНПЦ. У 2000 годзе за сваё жаданне праводзіць набажэнствы Спасюк атрымаў пяць сутак арышту. У бягучым годзе міліцыянты закоўвалі яго ў кайданкі, а Бераставіцкі раённы суд пакараў штрафам у пяць мінімальных заробкаў. Вытрымаць усё гэта, паводле словаў святара, яму дапамаглі толькі прыхаджане, духоўную падтрымку якіх ён адчувае заўсёды.

Набажэнствы ў Пагранічным адбываюцца вось ужо з год, у вялікім вайсковым намёце, дзе пачэснае месца займае абраз Святой Ефрасінні Палацкай, імем якой і будзе названа царква.

Ва ўрачыстасцях закладкі першага Беларускага храма ўзяў удзел архіепіскап Беларускай Аўтакефальнай Народнай Праваслаўнай Царквы Юры Рыжы, які прыляцеў у Беларусь з Нью-Ёрку нягледзячы на паважны ўзрост і перанесеную ў красавіку аперацыю на сэрцы. Адведаўшы традыцыйнага хлеба-солі, архіепіскап памаліўся разам з парафіянамі за ахвяраў тэракта ў ЗША і за будучыню Храма Ефрасінні Полацкай.

Пасля Крыжовага ходу з харугвамі, Юры Рыжы ды першы сакратар Амерыканскай амбасады ў Беларусі Джон Кунштадтэр заклалі ў падмурак будучай царквы капсулу з пасланнем нашчадкам. Пасланне дабраславіў Юры Рыжы:

- Паважаныя нашчадкі, узлюбіце адзін аднаго, каб мы, беларусы, сталі сапраўдным народам. Ад-раджайце беларускую царкву, захавайце родную мову і памятайце тых, хто аддаў сваё жыццё і духоўны запал гэтай справе. Мы спадзяемся, што Госпад Бог дарує Вам лепшы шлях і добрую долю.

Свята-Ефрасінеўскі прыход у Пагранічным паранейшаму, нягледзячы на шматлікія спробы вернікаў, адмаўляюцца рэгістраваць у Гарадзенскім аблвыканкаме. На апошняй сустрэчы з журналістамі ў жніўні бягучага года кіраўнік Савета па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў аблвыканкама Ігар Папоў даў зразумець, што праблема з рэгістрацыяй прыхода надумана журналістамі.

У сваю чаргу, у суботу на падмурках будучага храма айцец Ян Спасюк выказаў пажаданне ўжо ўлетку наступнага года правесці набажэнствы ў збудаванай царкве. А вайсковы намёт пойдзе па іншых мясцінах Беларусі, дзе паўстануць новыя Беларускія храмы. "Пагоня"

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

## Новы ксёндз у Вішневе

ВАЛОЖЫН. У верасьні ў Вішнеўскім касьцёле Найсьвяцейшай дзевы Марыі зьявіўся новы настаяцель. Гэта ксёндз Уладзімір Шышла. Ён нарадзіўся на Вілейшчыне. Апошнія тры гады служыў у Чырвоным касцёле побач з вядомым Уладзіславам Завальнюком. Раней у Вішневе на працягу апошніх 50 год службу вёў ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі. Ён першы ў Беларусі пачаў весьці службы на беларускай мове. Уладзіслаў Чарняўскі па стане здароўя ня можа весьці службы. Цяпер ён знаходзіцца ў Чырвоным касьцёле.

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

## Сяргей ГРАХОЎСКІ

**"Усё жыццё адданы Беларусі"**

Новыя вершы. Старэйшаму паэту Беларусі, бліскучаму майстру пяра Сяргею Іванавічу Грахоўскаму -- **88.**

Здароўя Вам, плёну ў нястомнай творчай працы, дарагі Сяргей Грахоўскі!

### Вяртанне...

Калі я ўспамінаю маці,
Чуллівым станаўлюся, як дзіця,
Здаецца, босы тупаю па хаце,
Не ведаючы іншага жыцця.
А маці горбіцца пры печы,
Забельвае зацірку малаком,
Уздрыгваюць натруджаныя плечы,
І вочы выцірае кулаком.
Збіраецца на досвітку у поле:
Увесну сее, а у жніўні жне,
То бульбу капанічыць, проса поле,
За пазухай нясе акрайчык мне.
Так, як яе, я не чакаў нікога,
Бег сустракаць аж у канец сяла,
Пакуль мяне нялёгкая дарога
У ненадзейны свет не павяла.
Хацеў разжыцца, але толькі траціў
У посныя юначыя гады.
Але парэпаныя рукі маці
Неспадзявана склала назаўжды.
Як толькі ўспомню -- слёзы засцяць вочы,
Душа смыліць да гэтае пары.
І сэрца супакоіцца не хоча
У халоднай хаце, на пустым двары.
Я страціў многіх, але толькі маці
Мне часта сніцца ў спёку або ў дождж,
І радуюся, што у нашай хаце,
Як некалі, ступаю басанож.
Ад селішча даўно няма нічога:
Пазарасталі сцежкі і сляды...
Вось і мая канчаецца дарога
' знікне ў дзень кароткае бяды...
Дасць Бог, нашчадкаў гора абміне,
Што залічылі ў прадзеды мяне.

### Замова

Шапчу я замову
За родную мову,
За шчасце маёй Беларускай Зямлі.
Мы зведалі здзекі, знявагі і змовы,
А нашу Радзіму усё ж зберaглі.
Яна -- і сумленне, яна і аснова,
Яна, як паходня у дужых руках,
Каб матчына ласка, каб матчына слова,
Каб воля і шчасце свяцілі ў вяках.
Хто з матчынай мовы і маці смяецца,
Той збіўся з дарогі і цягне свой груз.
Калі хоць адзін беларус застанецца,
Шчасліваю будзе заўжды БЕЛАРУСЬ.

## Падарожжа маленькіх беларусаў

**Вось ужо некалькі гадоў запар Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" накіроўвае дзяцей на аздараўляльны адпачынак у розныя краіны свету. Гэта стала магчымым пасля таго, як арганізацыя ўсталявала шчыльныя кантакты з кіраўніком дабрачыннага фонду ў Кліўлендзе <u>Ірэнай Каляда-Смірновй</u>, якая вядомая сваёй дабрачыннай дзейнасцю як сярод беларускай дыяспары ў свеце, так і на Беларусі.**



годзе групу склалі дзеці з розных куткоў Беларусі, якія перамаглі ў літаратурным конкурсе. Сам конкурс быў прысвечаны Трэцяму з'езду беларусаў свету, а тэма - роднай краіне: "Беларусь - мая Бацькаўшчына". Пераможцы гэтага конкурсу (35 чалавек) і атрымалі цудоўную магчымасць адпачыць на балгарскім курорце "Кранева".

"Бацькаўшчына", як і заўсёды, з адказнасцю паставілася да арганізацыі дзіцячага адпачынку. Акрамя выхавальнікаў, групу дзяцей суправаджаў сябра Управы арганізацыі, лекар, а балгарскі бок забяспечыў выратавальніка.

Мора было найлепшым падарункам і забавай дзяцей. Але толькі гэтым праграма не скончылася. Выхавальнікі арганізоўвалі шматлікія літаратурныя конкурсы, спаборніцтвы, рухомыя гульні, гістарычныя віктарыны, выставы малюнкаў, пешыя вандроўкі, дыскатэкі - вось далёка няпоўны спіс мерапрыемстваў, якімі бавілі час дзеці. Незабыўнае ўражанне выклікала ў іх наведванне дэльфінарыя і батанічнага саду ў Варне.

Не падвёў і балгарскі бок. Дзеці засталіся задаволенымі і ўмовамі жыцця, і харчаваннем.

Ніводнае мерапрыемства, ніводнае наведванне пляжу не абыходзілася без бел-чырвона-белага сцяга. Цырыманіял ўзняцця сцяга адбываўся штораніцы. І ўжо праз некалькі дзён увесь курорт ведаў, чый сцяг лунае на другім паверсе гатэля, дзе жылі нашыя дзеці. Асаблівая дзецям былі да спадобы (мяркуючы па іх лістах) мерапрыемствы на гістарычныя тэмы, канцэрты беларускіх песень, а таксама ўвага, якую звярталі ўсюды замежнікі на маленькіх падарожнікаў з нашым нацыянальным сцягам. Пад гучанне "Жыве Беларусь!" праходзілі валейбольныя спаборніцтвы з дзіцячымі камандамі. Дарэчы, каманда "Бацькаўшчыны" перамагла ўсе каманды дзяцей з Балгарыі ды Расеі. Не засталіся абыякавымі і нашыя суайчыннікі, што адпачывалі ў "Кранева". Прыходзілі падтрымаць каманду дзетак-беларусаў сем'ямі. Ул. Інф.

******************************************************

## НОВЫЯ ЦІКАВЫЯ ВЫДАНЬНІ...

На пачатку мінулага тыдня ў кнігарнях сталіцы нарэшце зьявілася 1-я кніга 6-га тома "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". На амаль 600 старонках зьмешчаныя артыкулы пра палітычныя, грамадзкія, ваенныя падзеі, матэрыялы пра адміністрацыйна-тэрытарыяльныя падзел, стан эканомікі, культуры й навукі, біяграфічныя артыкулы пра гістарычных асобаў, часта - геральдычныя, генэалягічныя, нумізматычныя матэрыялы, карты. Нагадаю, што папярэдні, 5-ы, том гістарычнае энцыкляпэдыі выйшаў два гады таму. У новым томе артыкулы даведзеныя да слова Ўсая. Кніга выдадзеная накладам 10 тыс. асобнікаў.

У новым томе Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі зьмешчаныя артыкулы пра Раду БНР, Слуцкае паўстаньне 1920 г. Для ілюстрацыі біяграфічных артыкулаў выкарыстаныя дагэтуль малавядомыя беларускаму чытачу й гледачу партрэты гістарычных асобаў. Ёсьць артыкулы пра русіфікацыю й расейскамоўную літаратуру. У артыкуле пра сацыялізм яго аўтар Анатоль Сідарэвіч рэзюмуе, што "сістэма, створаная ў 1930-я гг., не па праву прэтэндавала на назву сацыялістычнай, бо адмаўляла прынцып свабоды й сацыяльнай справядлівасці".

Артыкул пра сьцяг праілюстраваны ўсімі штандарамі БССР (апрача "сталінскага" ўзору 1951 г., які стаў узорам цяперашняга дзяржаўнага), а таксама цяперашнім "флагам" РБ, а вось бел-чырвона-белага сьцягу няма. Пры артыкуле аб Сталіну зьмешчанае ягонае прыгожае фота. У 4-м томе было фота Леніна, а ў 3-м томе чамусьці не было здымка Гітлера.

"Энцыклапедыя гісторыі Беларусі", хаця й без Пагоні на вокладцы, агулам вартая таго, каб адшкадаваць на яе набыццё 6 тысяч рублёў - такая яе цана ў кнігарнях.